

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4914) 17 сакавіка 2017 г.




Фота БелТА.

Кніга «Царствы», Прага: выданне Францыска Скарыны, 1518.

# Першакніга для беларусаў

## Рэдкія выданні Біблії ў адной выстаўцы

**Экспазіцыя «Кніга кніг» распавядае, якім чынам прыходзіла Слова Божае на землі Беларусі. Трэба завітаць у Нацыянальную бібліятэку краіны, каб больш глыбока зразумець гісторыю галоўнай кнігі хрысціянства ў кантэксце дзейнасці Францыска Скарыны.**

Асобнае месца на гэтай выстаўцы займае першакніга беларускай культуры — Біблія Францыска Скарыны з фонду Нацыянальнай бібліятэкі. Гледачы пабачылі адразу 7 выданняў першадрукара, змешчаных у трох асобніках Біблії: у Кнізе «Царствы» пад адной вокладкай аб'яднаныя 4 кнігі. Акрамя яе ў экспазіцыю патрапілі «Прамудрасць Божая» і «Ісус Сірахаў» — выданні Старога Запавету, што выйшлі ў свет на пачатку друкарскай дзейнасці Скарыны ў Празе. Гэтыя выданні набылі для бібліятэкі больш як 90 год таму, але рэдка прадстаўлялі гледачам: вядома, такія рарытэты старанна захоўваюць.

— Варта звяртаць увагу не толькі на час узнікнення кнігадрукавання і яго форму, але і на змест: першая беларуская друкаваная кніга была Бібліяй, — сцвярджае намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. — На выстаўцы мы зрабілі акцэнт на Біблії і яе гісторыі, якая налічвае ўжо больш як два тысячагоддзі.

У межах экспазіцыі, што адкрылася ў Дзень праваслаўнай кнігі, прадстаўлены старажытныя еўрапейскія спісы на папірусе і пергаменце, адна з першых друкаваных Біблій Заходняй Еўропы, а таксама інкунабульныя выданні XV стагоддзя. Упершыню дэманструецца якасна зробленае факсімільнае ўзнаўленне «Паслання апостала Пятра» — адзін з найбольш старажытных рукапісаў хрысціянскага свету, які ўваходзіць у склад Новага Запавету Біблії. Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі заўважыў, што ўзнаўленне «Паслання апостала Пятра», хрысціянскі літаратурны помнік III стагоддзя, зусім нядаўна перадала ва ўласнасць НББ Ватыканская апостальская бібліятэка.

Працяг на стар. 4

## Пункцірам

✔ Беларусь і Ізраіль абмяняюцца днямі культуры. Пра гэта паведаміў журналістам намеснік прэм'ер-міністра Міхаіл Русы ў каментары датычна вынікаў пасяджэння сумеснага беларуска-ізраільскага камітэта па гандлёвым і эканамічным супрацоўніцтве. Паводле Міхаіла Русага, да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Ізраілем пройдуць маштабныя мерапрыемствы. Пасольствы і ўрады ўжо працуюць у гэтым напрамку. Акрамя таго, у абедзвюх краінах прыкладаюцца намаганні для павелічэння ўзаемных турыстычных патокаў.

✔ Міжнародная выстаўка сучаснага мастацтва «Ад Лісабона праз Мінск, Маскву да Уладзівастока» адкрылася ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Ініцыяваны беларускім бокам арт-праект аб'яднаў работы 28 мастакоў з 27 еўрапейскіх дзяржаў. На вернісажы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка адзначыў, што ў аснове назвы выстаўкі — словы з легендарнай прамовы Шарля дэ Голя ў 1959 годзе ў Страсбургу, у якой ён агучыў тэзіс важнасці пабудовы адзінай прасторы «ад Лісабона да Урала».

✔ Строй лелікаўскай сваццi з Кобрынскага раёна прэтэндуе на ўключэнне ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі, паведамілі ў галоўным упраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама. Старадаўні строй быў распаўсюджаны ў вёсках Лелікава і Павіцце Кобрынскага, а таксама Радастава Драгічынскага раёнаў. Традыцыі яго стварэння захаваліся да нашых дзён. Сёлета матэрыялы з хадайніцтвам аб уключэнні ў Дзяржаўны спіс строю лелікаўскай сваццi плануецца накіраваць на разгляд Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры.

✔ XXX Міжнародны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі адбудзецца ў Полацку і будзе доўжыцца з 28 сакавіка па 27 красавіка, паведамілі ў Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку. У праграму фэсту, які традыцыйна праходзіць у канцэртнай зале Сафійскага сабора, уключаны сем канцэртаў. Чакаюцца выступленні музыкантаў з Беларусі, Германіі, Італіі, Францыі, Аўстрыі, Польшчы і Бразіліі. Падчас першай канцэртнай праграмы адбудзецца адкрыццё II дзіцячага фартэпіяннага конкурсу «Бах і XXI стагоддзе».

✔ Беларускае тэлеграфнае агенцтва запусціла інтэрнэт-праект «Мінск і мінчане», прысвечаны 950-годдзю Мінска. Падзея прымеркаваная да першай згадкі пра «Аповесць мінулых гадоў», якая датуецца 3 сакавіка 1067 года і звязана з кровапралітнай бітвай на Нямізе. Напачатку інтэрнэт-праект распавядае пра гісторыю горада ад першага згадвання да нашых дзён. На працягу юбілейнага года аўтары плануюць напаўняць сайт гісторыямі пра ганаровых грамадзян Мінска, расповедамі пра выдатныя мясціны і маладвядомыя факты, паведамляць пра перспектывы развіцця Мінска, мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею сталіцы.

# «Галоўная мерка чалавечага быцця»

### Заява ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі»

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае сваю заклапочанасць хваляваннямі, што адбываюцца ў краіне ў сувязі з рэалізацыяй Дэкрэта № 3 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У грамадстве неадназначна ўспрынята жаданне з боку дзяржавы далучыць да ўдзелу ў грамадска-карыснай працы тую частку насельніцтва, якая ў ёй не задзейнічана, але карыстаецца агульнымі выгодамі, не прыкладаючы да гэтага намаганняў. На жаль, выкананне Дэкрэта закранула пэўную катэгорыю людзей, якія не маюць нічога агульнага з так званымі дармаедамі. Спадзяёмся, што дапрацоўка дакумента дазволіць пазбегнуць недапушчальных памылак у нагнятанні непатрэбнага ў грамадстве напружання. Падыход да кожнай сітуацыі будзе абгрунтаваным.

З даўніх часоў праца лічылася галоўнай меркай чалавечага быцця. Пра гэта сведчаць шматлікія творы вуснай народнай творчасці. У прыватнасці, пра вытокі дабрабыту чалавека гаворыцца ў такой знаёмай прыказцы: «Хто не працуе, той не есць». Праца робіць чалавека моцным і стойкім, шчаслівым і незалежным. Гэтая тэма чырвонай ніткай праходзіць праз творы як класікаў айчыннай літаратуры, так і сучасных аўтараў.

Адлюстраваная ў мастацкай форме нацыянальная адметнасць беларуса заключаецца ў тым, што ён шукае лепшай долі, але пераадольвае свае беды цярпеннем і працай, разлічвае на ўласныя сілы.

Менавіта ў працы раскрываюцца характары літаратурных персанажаў, іх стаўленне да тых, хто побач, іх светапогляд. Прафесіяналізм любога працаўніка набывае сапраўдную грамадскую каштоўнасць толькі тады, калі спалучаецца з высокімі маральнымі якасцямі, з патрэбай думаць і жыць інтарэсамі калектыву, шырокімі дзяржаўнымі інтарэсамі.

Вось чаму Саюз пісьменнікаў Беларусі падзяляе меркаванне аб ініцыятыве з боку дзяржавы зацвердзіць сацыяльную справядлівасць у грамадстве, прыцягнуць максімальную большасць актыўнага насельніцтва да працы. У тым ліку лічым важным прыпадняць тэму чалавека працы, яшчэ больш умацаваць у грамадстве аўтарытэт лепшых працаўнікоў.

Выказваем упэўненасць, што дзякуючы ўласцівай беларусам талерантнасці, разважлівасці, сканцэнтраваўшы сваю волю, мы зможам будаваць наш агульны дом — Беларусь — без ваганняў і непатрэбных шарахнанняў. А вобразы лепшых нашых сучаснікаў знойдуць адлюстраванне ў новых літаратурных творах.

**Старшыня ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі» М. І. ЧАРГІНЕЦ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «КЛУмБа» і марскія прыгоды

Для прэзентацыі калектыўнага зборніка «Кветкавыя ветразі» сябры студэнцкага клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа» Фундаментальнай бібліятэкі БДУ (кіраўнік — Ірына Шкіронак) стварылі паэтычны спектакль з аднайменнай назвай. У марское падарожжа выправіліся і госці Мінскага гарадскога тэатра паэзіі пры Мінскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

— На «КЛУмБе» квітнее будучае нашай нацыянальнай літаратуры. Сярод членаў гэтага творчага экіпажа ёсць сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі — Таццяна Купрыянец і Кацярына Роўда, — зазначыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік тэатра паэзіі Міхась Пазнякоў.

У імгненне сцэна ператварылася ў карабельную палубу, і разам з камандай судна гледачы пагрузіліся ў атмасферу адкрыццяў і прыгод. Падарожнікі апыналіся на астравах Вайны, Чыстых душ, Любові... У гэтых назвах — тэматыка творчасці ўдзельнікаў пастаноўкі. Сустрэчу з кожным новым востравам боцман экіпажа Марта Кудзіна заносіла ў судавы журнал, які ўрэшце стаў сапраўдным летапісам юнага паэтычнага слова.

Слухаючы вершы і песні членаў экіпажа, гледачы станавіліся сведкамі розных гісторый. Свае творы публіцы прадставілі капітан карабля Іван Цвірко, Аліна Цвірко, Кацярына Роўда, Таццяна Купрыянец ды іншыя маладыя артысты-літаратары. На «палубе» гучалі і саксафонныя кампазіцыі ў выкананні Ільі Візера.

На сустрэчу з юнымі талентамі завіталі паэты, сябры СПБ Мікалай Іваноў і Леанід Лукша, паэтэса і бард Таццяна Жылінская, кампазітар і спявак Сяргей Кравец. Міхась Пазнякоў уручыў калектыву «КЛУмБы» грамату СПБ за грамадскую дзейнасць і падтрымку юных талентаў.


*Сцэна з паэтычнага спектакля «Кветкавыя ветразі».*

Да выхаду рыхтуецца яшчэ адзін зборнік «клумбаўцаў». Таму з упэўненасцю можна сказаць, што падарожжа маладога экіпажа ў неабсяжны свет літаратуры працягваецца.

**Дар'я НІКАНЧУК**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**20 сакавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

**21 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Тамарай Бунта ў Дзяржынскую цэнтральную раённую бібліятэку. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**21 сакавіка** — *на XXV Мінскія паэтычныя чытанні ў Цэнтральную мінскую гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**21 сакавіка** — *на свята маладой паэзіі ў кафэ «Лофт» (вул. Петруся Броўкі, 22) з удзелам лаўрэатаў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных конкурсаў. Пачатак у 19.30.*

**22 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Тамары Бунта «Дзяўчынка з вішнёвага завулка» ў Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на літаратурную сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым (у межах праекта «Творчае сяброўства») у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на творчы вечар паэтэсы Людмілы Клачко «Калі прачынаецца душа», прымеркаваны да Сусветнага дня паэзіі, у публічную бібліятэку № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак у 16.30.*

**22 сакавіка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16) на юбілейны творчы вечар паэтэсы і барда Таццяны Жылінскай «Человек приходил к человеку». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**23 сакавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на літаратурна-музычную імпрэзу «Родны мой горад — любоў мая», прысвечаную 40-годдзю Маскоўскага раёна сталіцы. Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Ірынай Карнаухавай, прысвечаную Міжнароднаму дню паэзіі, у а/г Пліса Смалявіцкага раёна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**21 сакавіка** — *на імпрэзу «Паэтычны вянок Брэстчыны» ў Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры. Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**22 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі Маіны Бабарыка «Витебский витраж» у Віцебскую абласную бібліятэку імя. У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтам Уладзімірам Крайневым у СШ № 19 г. Віцебска (вул. М. Горкага, 113). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**23 сакавіка** — *на літаратурную сустрэчу «Са свету фарбаў і сугуччаў» у СШ № 11 г. Полацка (вул. Чырвонаармейская, д. 17 а). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**21 сакавіка** — *на прэзентацыю пятага нумара літаратурнага альманаха «На Нёманскай хвалі» ў гарадскі цэнтр культуры «Гродна» (вул. Дзяржынскага, 1). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у СШ № 2 г. Гродна (вул. 17 верасня, 48). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на сустрэчу са старшынёй аддзялення Людмілай Кебіч «Гродзеншчына літаратурная» ва ўстанову абласных курсаў павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры (вул. Савецкая, 8). Пачатак у 10.40.*

**24 сакавіка** — *на сустрэчу з паэтамі Людмілай Шаўчэнка, Дзмітрыем Радзівончыкам і бардам Анатолем Апанасевічам з цыкла «Увага — паэзія!», прысвечаную Сусветнаму дню паэзіі, у гродзенскую гарадскую бібліятэку № 3 (вул. Л. Чайкінай, 49). Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**20 сакавіка** — *на літаратурна-музычную вечарыну «Паміж сузор'яў і сукавецця» ў Магілёўскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна (вул. Крыленкі, 8). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**21 сакавіка** — *на юбілейную творчую сустрэчу з пісьменнікамі Віктарам Арцем'евым і Віктарам Кунцэвічам у Магілёўскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 сакавіка** — *на літаратурную вечарыну па творчасці пісьменніцы Ніны Кавалёвай «Я на земле моей не лишняя...» ў інтэрнат Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі, вул. Сурганава, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на абласныя Пысінскія чытанні «У небе і кнізе — сонца» ў Магілёўскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна (10.00 — 12.00, 15.00 — 18.00).*

**23 сакавіка** — *на творчы ўрок «Чарэйцаў круг», прымеркаваны да юбілею пісьменніка Віктара Арцем'ева, у Магілёўскі дзяржаўны бібліятэчны каледж імя А. С. Пушкіна (пр-т Касманаўтаў, 7). Пачатак а 15-й гадзіне.*

Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці вядомага на Гродзеншчыне культурнага дзеяча, музыканта, кампазітара, паэта Яўгена Канстанцінавіча ПЕТРАШЭВІЧА і выказвае глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

# КВЕТКІ ПАЭЗІІ І ПРОЗЫ

Каб стаць сапраўдным літаратарам, мала напісаць годны твор, — трэба зрабіць так, каб яго прачыталі. Знайсці шлях да чытача часам бывае складана нават для вядомых пісьменнікаў — для маладых жа аўтараў сустрэцца з аўдыторыяй — цяжкая задача. Каб маладыя таленты не пісалі «ў стол», а друкаваліся ў перыядычных выданнях і літаратурных зборніках, працягваецца літаратурны конкурс «Першацвет», скіраваны на падтрымку аўтараў-пачаткоўцаў. На першы конкурс, які абвясціўлі ў 2016 годзе, даслалі творы больш як 160 маладых пісьменнікаў і паэтаў. Дасягненні дэбютантаў адзначылі падчас XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Найлепшыя творы патрапілі не толькі ў альманах з адмысловай назвай «Першацвет», але і на старонкі газеты «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Нёман» і «Маладосць» ды іншых літаратурна-мастацкіх выданняў Беларусі.




### Конкурс праводзіцца штогод.

Арганізатары конкурсу — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» (далей — арганізатары конкурсу).

Нагадваем правілы конкурсу для новых удзельнікаў.

### Мэты конкурсу:

- рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў сферы выдавецкай дзейнасці;
- адкрыццё новых аўтараў у літаратуры;
- стымуляванне прафесійнага і мастацка-стылістычнага патэнцыялу маладых аўтараў;
- прадастаўленне маладым аўтарам магчымасці першай публікацыі;
- папулярызацыя кнігі і чытання ў грамадстве.

Інфармацыя аб правядзенні конкурсу размяшчаецца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу. Інфармацыя павінна ўтрымліваць звесткі пра час, месца правядзення конкурсу, умовы, крытэрыі і парадак ацэнкі твораў удзельнікаў, парадак і тэрміны аб'яўлення вынікаў конкурсу, формы ўзнагароджання, а таксама іншыя неабходныя звесткі.

✓ У конкурсе могуць браць удзел грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў уключна на момант падачы заяўкі (далей — удзельнікі конкурсу).

✓ На конкурс прымаюцца паэтычныя і празаічныя творы (далей, калі не ўказана іншае, — творы), якія не публікаваліся раней і не ўдзельнічалі ў іншых конкурсах. Аб'ём твора не павінен перавышаць трох аўтарскіх лістоў. Кожны ўдзельнік конкурсу мае права накіраваць толькі адзін твор на рускай або беларускай мове. Прадстаўляючы твор на конкурс, удзельнік дае згоду на аднаразовае бязвыплатнае выкарыстанне твора ў друкаваных сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі).

✓ Заяўка на ўдзел у конкурсе запаўняецца па форме, згодна з дадаткам да дадзенай інструкцыі (форму заяўкі на ўдзел у конкурсе можна знайсці на сайце арганізатараў. — **Заўв. рэд.**). Разам з заяўкай удзельнік конкурсу накіроўвае:

- кароткую біяграфічную даведку;
- фотаздымак удзельніка конкурсу ў фармаце *jpg (jpeg)*;
- твор, афармлены ў рэдактары *Microsoft Word* у фармаце *doc*, шрыфт *Times New Roman*, памер шрыфту 14, міжрадковы інтэрвал 1,5, усе палі 2,5 см.

На тытульным лісце твора неабходна ўказаць: прозвішча, уласнае імя, імя па бацьку (калі такое ёсць) удзельніка конкурсу, псеўданім (калі такі ёсць), назву твора. Матэрыялы прымаюцца на конкурс у электронным выглядзе на наступны адрас электроннай пошты: *projects.zviazda@gmail.com*. Прыём заявак для ўдзелу ў конкурсе і твораў праводзіцца штогод з 1 сакавіка па 30 кастрычніка ўключна.

✓ Матэрыялы, прадстаўленыя з парушэннем патрабаванняў, указаных у пункце 8 дадзенай інструкцыі, да разгляду не прымаюцца.

✓ Выдаткі, звязаныя з падрыхтоўкай і прадстаўленнем матэрыялаў на конкурс, аплачваюцца яго ўдзельнікамі самастойна.

✓ Творы, якія паступілі на конкурс, не рэцэнзуюцца, не вяртаюцца і не падлягаюць аплаце.

✓ Для ацэнкі твораў удзельнікаў конкурсу ствараецца экспертны савет у колькасці васьмі чалавек. Склад экспертнага савета зацвярджаецца Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Склад экспертнага савета фарміруецца з прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, творчых саюзаў, арганізацый, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, юрыдычных асоб, на якіх ускладзены функцыі рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі. У склад экспертнага савета не могуць уваходзіць аўтары твораў, якія ўдзельнічаюць у конкурсе. Экспертны савет узначальвае старшыня.

Пасяджэнне экспертнага савета лічыцца правамоцным, калі ў ім бярэ ўдзел не менш як дзве трэці членаў экспертнага савета. У спрэчных выпадках вырашальным з'яўляецца голас старшыні экспертнага савета. Ацэнка твораў удзельнікаў конкурсу ажыццяўляецца па дзесяцібальнай сістэме ацэнкі.

Пры ацэнцы твораў, якія паступілі на конкурс, членамі экспертнага савета ўлічваюцца:

- літаратурны змест;
- стылістычнае і моўнае майстэрства;
- арыгінальнасць вобразнай сістэмы твора;
- пісьменнасць.

✓ Аўтары дзесяці паэтычных і дзесяці празаічных твораў, якія набралі найбольшую колькасць балаў, прызнаюцца экспертным саветам пераможцамі конкурсу. Рашэнне аб пераможцах конкурсу афармляецца пратаколам. Спіс пераможцаў конкурсу і назвы іх твораў размяшчаюцца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу. Вынікі конкурсу падводзяцца штогод да 1 лютага.

Пераможцам конкурсу ўручаюцца дыпломы. Творы пераможцаў конкурсу публікуюцца ў сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі). Дыпломы ўручаюцца пераможцам конкурсу ва ўрачыстай атмасферы на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

## Дайджэст

• У Маскве выйшаў падручнік для саманавучання беларускай мове. Склаў яго беларускі лінгвіст Антон Сомін: ён ладзіць у Маскве моўныя курсы, на якія можна патрапіць выключна паводле конкурснага адбору. Што цікава, саманавучальнік мае пазнаку 16+. Прычынай таму сталі згадкі ў падручніку пра алкагольныя напоі, а гэту інфармацыю ў Расіі нібыта нельга ведаць дзецям да 16. Антон Сомін зазначыў: «Можна сказаць, што ў нас ёсць два лексічныя пласты: афіцыйны і ад тарашкевіцы... Я вырашыў, што гэтыя два лагеры трэба прымірыць, і стварыў першы падручнік, дзе адначасова ёсць інфармацыя пра абодва варыянты. Інфармацыя пра тарашкевіцу надрукаваная іншым шрыфтам. У спісах слоў я даваў два варыянты напісання праз "слэш". Агулам гэта тыповы падручнік для саманавучання, дзе ёсць дыялогі, практыкаванні на лексіку, маўленне».

• Пераклад на беларускую мову «Яўгена Анегіна», які 80 гадоў лічыўся страчаным, знойдзены. Пра гэта паведаміла даследчыца літаратуры Ганна Севярынец. Гаворка ідзе пра першы поўны пераклад знакамітага рамана ў вершах, які зрабіў паэт Алесь Дудар. Тэкст перакладу паспелі агучыць па-беларуску: паэт чытаў яго на творчым вечары. Пасля Алесь Дудар быў арыштаваны і ў ноч з 29-га на 30 кастрычніка 1937 года расстраляны. «Яўгеній Анегін» у перакладзе Дудара так і не быў выдадзены. Пераклад доўгі час лічыўся згубленым, былі вядомыя толькі некалькі фрагментаў рамана. Найбольшую вядомасць атрымаў пераклад "Яўгенія Анегіна" Аркадзя Куляшова, але тэкст Дудара стаў для яго асновай. Ганна Севярынец лічыць знаходку перакладу цудам, бо ў беларускіх архівах захаваліся ўсяго чатыры лісты і пяць фатаграфій Дудара. Астатнія рукапісы зніклі.

• У прасторы «ЦЭХ», у Мінску, працуе першая выстаўка карцін беларускіх музыкаў «Музыка без межаў». Імпрэза закліканая паказаць розныя бакі самавыяўлення творчай асобы, а таксама паразважаць над праблемай свабоды творчасці і яе межаў. На выстаўцы прадстаўленыя карціны і малюнкі Лявона Вольскага, лідара гурта «Крама» Ігара Варашкевіча, гурта «Палац» Алега Хаменкі, фронтмена брэсцкіх панк-зорак «Дай дарогу!» Юрыя Стыльскага, Андруся Такінданга (*Recha*, *Harotnica*), Ганны Жданавай (*Lilac*), лідара гурта *Znich* Алеся Таболіча, Сяргея «Скрыпы» Скрыпнічэнкі (*Žygimont Vaza*) і Аляксандра Дземідзенкі (*Re1ikt*). Усе музыкі граюць у розных стылях, аднак, як высветлілася, іх аб'ядноўвае выяўленчае мастацтва. Шмат хто з іх пачынаў свой творчы шлях як мастак ці графік.



## ЛіМ-каляндар

**13 сакавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Пятра Герасімовіча (1912 — 1990), беларускага мастацтвазнаўца, графіка.

**13 сакавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Расціслава Шмырова (1937 — 1995), беларускага кінаакцёра, кінасцэнарыста.

**13 сакавіка** 70 гадоў адзначыў Уладзімір Будкевіч, беларускі фагатыст, заслужаны артыст БССР.

**13 сакавіка** 70-гадовы юбілей адсвяткаваў Яўген Панамарэнка, беларускі мастак-акварэліст.

**13 сакавіка** 70 гадоў споўнілася Людміле Пуцейка, беларускму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, акварэлісту, жывапісцу.

**13 сакавіка** 70 гадоў адсвяткавала Жанэта Шыдлоўская, беларускі мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, сцэнаграфіст, графік, жывапісец.

**14 сакавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння Паўла Малчанава (1902 — 1977), беларускага акцёра, рэжысёра, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

**14 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Анатоля Ткачонка (1922 — 1994), беларускага жывапісца, графіка.

**14 сакавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Мікалая Рыжанкова (1932 — 1994), беларускага скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**15 сакавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Анатоля Бачкарова (1942 — 1997), беларускага скульптара.

**16 сакавіка** 70 гадоў адзначыў Валерый Шчарыца, беларускі трубач, заслужаны артыст БССР.

**17 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Ільі Клаза (1922 — 1980), беларускага празаіка.

**18 сакавіка** 75-гадовы юбілей адзначае Сяргей Волкаў, беларускі графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**18 сакавіка** 70-годдзе святкуе Лізавета Катковіч, беларуская актрыса.

**18 сакавіка** 70 гадоў спаўняецца Таццяне Малышавай, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**19 сакавіка** 80 гадоў адзначае Людміла Яфімава, беларускі харавы дырыжор, народная артыстка Беларусі.

# ПЕРШАКНІГА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

## Рэдкія выданні Бібліі ў адной выстаўцы

Выстаўка «Кніга кніг» адкрылася ў Дзень праваслаўнай кнігі. Па благаславенні Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла Выдавецкі савет Беларускай Праваслаўнай Царквы разам са Свята-Елісавецінскім манастыром ды Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі арганізаваў Дзень праваслаўнай кнігі, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Арганізатары імпрэзы нагадалі беларусам, што 500-годдзе беларускага кнігадрукавання — гэта, па сутнасці, свята царкоўнай кнігі, бо Францыск Скарына пачаў сваю асветніцкую дзейнасць з выдання «Псалтыра». Зараз Біблія — самае тыражаванае і папулярнае выданне ў свеце. Музей кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі спецыяльна да Дня праваслаўнай кнігі падрыхтаваў выстаўку «Кніга кніг», на якой прадстаўлены рэдкія выданні Бібліі.


Фота БелТА.

Першыя наведвальнікі выстаўкі «Кніга кніг» знаёмяцца з экспазіцыяй.

— Нягледзячы на тое, што ў наша жыццё актыўна прыходзяць тэхналогіі, кнігі застануцца, — заўважыў падчас адкрыцця выстаўкі Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел. — Калі мы чытаем, адбываецца нешта большае: мы дакранаемся да гісторыі і па-іншаму ўспрымаем свет.

Акрамя сусветнай біблейскай гісторыі акрэсліліі і шлях духоўнай кнігі на беларускіх землях: гісторыя Бібліі на Беларусі пачынаецца ад Тураўскага евангелля XI стагоддзя і налічвае амаль тысячу год. Нацыянальная бібліятэка прэзентавала не толькі друкаваныя выданні, але і каштоўныя рукапісныя кнігі, што існуюць у адзіным асобніку. Напрыклад, унікальныя помнікі кнігапісных традыцый нашай краіны — беларускія рукапісныя евангеллі XVI — XVII стагоддзяў. Пазнаёміліся госці выстаўкі і з біблейскімі выданнямі знакамітай Берасцейскай друкарні — фактычна, першай друкарні на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Для экспазіцыі «Кніга кніг» падрыхтавалі адно з першых выданняў Берасцейскай друкарні, якое датуецца сярэдзінай XVI стагоддзя. Прадставілі вядомую Астрожскую Біблію, створаную Іванам Фёдаравым. Гэта першая друкаваная Біблія на царкоўнаславянскай мове, выдадзеная ў поўным аб'ёме (на жаль, наш суайчыннік Францыск Скарына не здолеў выдаць усе кнігі, што ўваходзяць у Біблію). Акрамя старажытных асобнікаў, выстаўка звярнула ўвагу і на больш сучасныя выданні Старога і Новага Запавету XX стагоддзя, у тым ліку і пераклады на беларускую мову.

Падчас урачыстай часткі імпрэзы дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі перадаў у падарунак бібліятэцы Інстытута тэалогіі імя св. Мяфодзія і Кірыла факсімільнае выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны».

Да Дня праваслаўнай кнігі экспазіцыі сваёй прадукцыі падрыхтавалі беларускія праваслаўныя выдавецтвы. Выдавецтвы Беларускага Экзархата, Свята-Елісавецінскага манастыра, Брацтва ў гонар святога Архістратыга Міхаіла ды іншыя прадставілі тэматычныя стэнды з навінкамі духоўна-асветніцкай літаратуры для дарослых і дзяцей. Весела і пазнавальна госці свята бавілі час на дзіцячай пляцоўцы побач са стэндамі, дзе ладзіліся цікавыя сустрэчы з аўтарамі дзіцячай духоўнай літаратуры. Свята-Елісавецінскі манастыр узнавіў для наведвальнікаў Дня праваслаўнай кнігі «Скрыпторый» XII стагоддзя — майстэрню па перапісванні кніг часоў Ефрасінні Полацкай. У «Скрыпторыі» дарослыя разам з дзецьмі ўбачылі ўзноўленыя экспанаты: кола для перасоўвання кніг, прэс для сціскання пергаментных старонак і самі кнігі, замацаваныя на паліцах пры дапамозе ланцужкоў. Для паглыблення ў майстэрства перапісвання працавала школа каліграфаў, дзе майстар-клас «Мастацтва пісьма» праводзілі дызайнер шрыфтоў, куратар студыі каліграфіі Аляксей Коваль і кніжны мастак, каліграф Ганна Кулікова.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

## Слабадан ВУКАНАВІЧ:

# «ФРАНЦЫСК СКАРЫНА — ЗНАКАВАЕ ІМЯ...»



Слабадан Вуканавіч — з тых літаратараў, якія не адзін ужо год добра сябруюць з Беларуссю. Ён паэт, празаік, перакладчык, які часта прыязджае ў Мінск, ведае іншыя гарады і паселішчы нашай краіны. Аўтар цыкла вершаў, прысвечанага Беларусі. У Мінску дзякуючы перакладчыцкім памкненням доктара філалагічных навук, прафесара, перакладчыка Івана Чароты пабачыла свет кніга яго паэтычных твораў. Даволі часта Слабадан Вуканавіч выступае ў беларускім друку з вершамі, інтэрв'ю. Зараз галоўны рэдактар чарнагорскага літаратурна-мастацкага часопіса «*Quest*» адказвае на нашы пытанні пра Францыска Скарыну і ролю яго постаці ў культуры не толькі Беларусі, але і ўсяго славянскага свету.

**— Паважаны Слабадан, 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, якое наша краіна збіраецца адзначыць у жніўні, — добрая нагода пагаварыць найперш пра Скарыну…**

— Маё глыбокае перакананне, што і 500-годдзе, і самі многія згадкі пра Францыска Скарыну ёсць сведчанне таго, што беларусы распачалі моцную пазітыўную культурную кампанію. Асабліва за межамі Беларусі. Гэта відаць і мне, і многім маім калегам з пісьменніцкага супольніцтва Еўропы, якія кантактуюць са мною, лістуюцца праз інтэрнэт. Думаю, што ў самой Беларусі трэба менш раскідвацца словамі пра Скарыну. Ён і без гэтага для вас найперш — грунт, аснова беларускага кнігадрукавання, беларускай кнігі, вечны помнік нацыянальнай культуры.

Ужо таго, што Францыск Скарына першым выдаў усходнеславянскі пераклад Бібліі ў Празе ў 1517 — 1519 гадах, дастаткова, каб яго імя было выпісана залатымі літарамі. Выданне, масавы друк царкоўных кніг, чым ён найперш апекаваўся, узбагаціла і старажытнабеларускую мову, і беларускую культуру ўвогуле. Кніга звязала Беларусь са светам. Гэта зараз гаспадарыць над нашымі інфармацыйнымі зацікаўленнямі інтэрнэт… А тады, пяцьсот гадоў назад, кніга была ў адначассе і Міністэрствам адукацыі, і Міністэрствам культуры, ды і Міністэрствам гісторыі, палітыкі таксама.

Кнігі Францыска Скарыны дайшлі да ўсходніх славян. У бібліятэцы Люблянскага ўніверсітэта захоўваецца скарынінская «Малая падарожная кніжка». Дарэчы, у той самай бібліятэцы знаходзіцца і частка «Супрасльскага летапісу». Я перакананы, што пра Скарыну трэба весці гаворку якраз ва ўсёй Еўропе, ва ўсім свеце.

Вельмі важна зараз, каб уся беларуская эліта ўнесла свой складнік у прапаганду Скарыны ў свеце. Вялікі рэзананс выклікала ваша выданне «Францыск Скарына на мовах народаў свету». Шкада, што праз пераклады на дзясяткі моў народаў свету выкладзены толькі адзін верш…

**— Толькі што ў «Мастацкай літаратуры» пабачыла свет кніга пераствараэнняў Алеся Разанава «Маем найбольшае самі». Паэт і перакладчык спрычыніўся да таго, каб вершам выкласці ўсе паслядоўі Скарыны да біблейскіх кніг.**

— Буду рады следам за Разанавым прачытаць як паэт Скарыну ўжо па-чарнагорску.

**— Знакавая падзея ў Беларусі — Дзень беларускага пісьменства. Сёлета ён будзе ладзіцца ў Полацку. Вы неаднойчы ўдзельнічалі ў такіх святах…**

— Дзень беларускага пісьменства — добры прыклад для ўсёй Еўропы, для ўсяго свету, як паважліва трэба ставіцца да кнігі, да слова. Прыемна, што да святкавання такога маштабу вы заўсёды запрашаеце замежных пісьменнікаў. Заўсёды рыхтуюся да выступлення на міжнародным круглым стале, які вы ладзіце ў пярэдадзень гэтага свята. Мне цікава сустракацца ў Беларусі з калегамі з розных краін свету. Так я пазнаёміўся шмат з кім з Казахстана, Таджыкістана, Расіі, Азербайджана, Арменіі… Радуюся разам з жыхарамі тых беларускіх гарадоў, дзе праводзіцца свята. Па іх размовах, па іх выглядзе бачу, якая ў вас цікавасць да кнігі, якое разуменне, што ваш народ вылучыў у планетарную прастору такога легендарнага чалавека, як Скарына. Ганарыцеся і надалей такімі набыткамі, такой духоўнай і гістарычнай уласнасцю.

Відаць, прыехаўшы ў Беларусь чарговы раз, сустрэну і лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлану Алексіевіч. Даўно мару пра знаёмства з ёю. Прачытаў яе кнігі на рускай мове. Спадзяюся, што будуць яе творы перакладзены і на родную для чарнагорцаў мову. Часам яе цягнуць у палітычныя мітрэнгі… Не ведаю, наколькі гэта правільна. Ведаю іншае. На маю думку, пісьменнікі — дрэнныя палітыкі. Кожнаму, як кажуць у многіх народаў, сваё. Палітыкі кіруюцца разлікамі, як і што сказаць менавіта ў дадзены час, да гэтага іх прымушаюць многія рэчы, клопаты пра правільнасць рашэння менавіта на пэўным адрэзку часу, клопаты з разлікамі адносна барацьбы за ўладу. Пісьменнікі — людзі іншага складу. Яны сфарміраваны з пачуццяў, духоўнага кантэксту. Пісьменнік — гэта скрыпач на даху аблокаў. Такім найперш і Скарына мне бачыцца: першадрукар, паэт, асветнік, мысляр на даху аблокаў, творца, які назірае за іншымі часінамі, назірае за намі, нашымі ўчынкамі.

**— А што ж вы ў такім разе скажаце пра будучыню друкаванай кнігі ўвогуле?.. Ці будуць некалі адзначаць тысячагоддзе першай друкаванай кнігі ў Беларусі, як і іншыя юбілеі кнігадрукавання ў свеце?..**

— Будуць. Не сумнявайцеся ў гэтым. Хаця я, зразумела, ніякі не празарліўца. У чымсьці магу і памыляцца. Ды ўсё ж, паверце, час смерці друкаванай кнігі яшчэ не надышоў. Друкаваная кніга асабіста для мяне як пісьменніка XX стагоддзя будзе і надалей выразным сімвалам вялікай цывілізацыі. Электронная кніга прыходзіць у наш час як мабільны дадатак, як 3D-фільм і іншыя навінкі. З гэтым не паспрачаешся. Мы не можам іх прыход спыніць. Ды і не трэба гэтага рабіць. Наша справа, наш галоўны клопат — паважліва ставіцца да друкаванай кнігі, да слова, якое мы давяраем паперы. Ушаноўваць патрэбна друкаваную кнігу і ўзвышаць яе. Не толькі мы, старэйшыя аўтары, але і малодшыя за нас па ўзросце, жыццёвым досведзе пісьменнікі, — усе мы павінны кіравацца менавіта такога кшталту перакананнем. Не інакш!.. Электронная кніга — гэта толькі побыт, толькі забеспячэнне надзённых патрэб. А вось друкаваная кніга, сустрэча са словам на паперы — гэта як свята, як самая высокая ўзнагарода і самая прэстыжная прэмія. Няхай будзе зусім як у казцы: жыла-была адна вялікая Кніга з вялікай грамадой чытачоў. І любілі ўсе адзін аднаго да канца жыцця. Якое ж гэта было шыкоўнае каралеўства!..

Са святам вас, дарагія беларусы, 500-годдзя скарынаўскай кнігі!..

**Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Слова ў абарону крылатае душы...

Не першы раз заўважаю ў Івана Штэйнера: яго думанне пра літаратуру арыентавана на найважнейшыя пытанні быцця. Мастацкія тэксты найчасцей — толькі падстава для іх першаснай інтэрпрэтацыі. А затым — размыканне тэксту і выхад да чытацкай свядомасці з колам праблем значных і глыбокіх, заўсёды актуальных. І заўсёды — з прыкметаю добрай інтэлектуальнай правакацыі, тыпу: каму ў ХХІ стагоддзі патрэбна літаратура? у якой якасці яна патрэбна ў сучаснай атмасферы татальнай камерцыялізаванай прагматыкі? і ці патрэбна яна наогул? Вось і цяпер новая літаратуразнаўчая праца гомельскага даследчыка «Валадар над усім: канцэпт голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры» (Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2016) інтрыгуе, як вынікае з загалоўка, акурат самой змястоўнай апазіцыяй: літаратура і голад.




Гэта праўда: літаратура не надта песціць сваіх абраннікаў празмернай сытасцю і ўладжанасцю жыцця. Часцей складваецца адваротная сітуацыя. Безліч творцаў сваю ахвярную прыхільнасць слову вымушаны аплачваць вельмі непрэзентабельнымі ўмовамі існавання. Адкрываў галерэю «галодных» паэтаў яшчэ ў Антычнасці, здаецца, Архілох. Яго далонь, ускінутая насустрач жаданаму кавалачку хлеба, красамоўна пацвярджала афарызм, народжаны ў тыя ж часы і шматкротна апрабаваны пазней: нястача — сястра таленту. Многія творцы сусветнай культуры маглі б паставіць пад ім свой несамавіты подпіс. Франсуа Віён, Тарквата Таса, Поль Верлен, Цыпрыян Норвід — спіс можна бясконца доўжыць, у тым ліку і з прадстаўнікоў беларускай літаратуры. Але каб вось так, наўпрост, як метафізічнае супрацьстаянне літаратуры і голаду, — чым тое не інтэлектуальная правакацыя на глыбокае засяроджанае думанне? Чаму знаны беларускі даследчык, добра вядомы праніклівымі працамі па філасофіі тварэння індывідуальнага мастацкага свету, раптам палічыў неабходным у якасці галоўнага крэатара выбраць такога нязвычнага і надта непрывабнага героя — голад? Няўжо на самай справе гэты «валадар над усім» кашчаваю сваёй рукой уладарна захапіў і моцна трымае літаратуру? І не проста безабароннае трапяткое яе цельца, а цалкам — як значны і вялікі, неабходны від чалавечай духоўнай дзейнасці (І. Штэйнер, нягледзячы на ўсю правакацыйнасць сваіх запатрабаванняў, літаратуру ўсё ж лічыць неабходнай цывілізацыйнай з'явай)?

Як бачым, правакацыя, пачатая аўтарскім пытаннем, доўжыцца ў сустрэчных да тэксту пытаннях. Таму нас чакае іншае чытанне — такое, што звыклым паняццем акадэмічнага літаратуразнаўства не акрэсліш. Матэрыял летапісаў, хронік, дзённікаў, нататнікаў, сведчанні знаных майстроў культуры розных часоў і розных народаў і, вядома ж, шчодрае выкарыстанне вытрымак непасрэдна з твораў мастацкай літаратуры, падпарадкоўваючыся неспасцігальнай і невытлумачальнай унутранай сінергетыцы, ствараюць глыбокія сэнсы кнігі. Важкі пераканальны аргумент неабходнасці вялікай колькасці змястоўных цытат — у галоўным тэзісе: літаратура не складаецца проста з тэкстаў. Яна ведае нешта іншае і больш значнае — яна гаспадыня сутнасцяў. І цытатны бляск — гэта бляск высыпаных перад чытачом мастацкіх сведчанняў пра сутнасныя з'явы свету. А з другога боку, гэта працэс няспыннага выбудоўвання Іванам Штэйнерам уласнага інтэлектуальнага свету, у якім галоўным сцверджаннем і прысутнічае сама літаратура як каштоўнасць, а паварот праблемы ў бок голаду дазваляе, згодзімся з аўтарам, «па-новаму ўбачыць і ацаніць яе маральныя арыенціры».

Але разам з тым нас чакае чытанне і вельмі няпростае. Пачаўшы ланцужок разважанняў ад быкаўскага: «голад — гаспадар над усім», І. Штэйнер намагаецца стварыць вобраз такога «цара бязлітаснага», які свой цяжкі цень паклаў на ўсё ў чалавечым быцці — на фізічнае і псіхічнае самапачуванне, на мараль, этыку, на самую духоўнасць наогул, у сувязі з чым прымушаючы чалавецтва «пакутаваць без самага галоўнага стрыжня». Страшней за гэта, сцвярджае аўтар, толькі сітуацыя, «калі ад цябе адвернецца Бог». І, паміж розных іншых назіранняў, прапануе бліскучы прыклад перапрачытання ў рамане К. Чорнага «Млечны шлях» сімвалаў адрынутага ад боскасці чалавецтва. Класічная ў чорнаўскім творы сцэна пагоні жменькі галодных людзей, здзічэлых ад голаду і жахаў ваеннай людской самабойні, за жывёлінай-быкам, не менш звар'яцелым ад гэтых жа жахаў, ёсць тэст выдатнага пісьменніка-гуманіста на агрэсіўнасць цывілізацыйнага «збыдлячэння». «*Гэтая пагоня, — слушна падкрэслівае аўтар, — сімвал адвечных марных спадзяванняў, што рухаюць чалавецтва, якое яшчэ ой як блізка да жывёльнага стану*».



Заўважым някідкую рытарычную фігуру, за якой — сутнасны паварот думкі: не «ад», а да «да». *Да* рызыкі быць адрынутым *назад* у першабытны, дацывілізацыйны стан свайго існавання. Асветніцкі праект нашага ліберальнага ўспрымання літаратуры, які прыкладна ад канца XVIII стагоддзя склаўся ў сталую антрапацэнтрычную традыцыю, напэўна, патрабуе свайго крытычнага пераасэнсавання. Уяўлялася, што літаратура — гэта трывалае, вечнае і незнікальнае, што яна — лепшы «падручнік», назаўжды падараваны чалавецтву для яго вялікага паходу праз гісторыю. А аказалася не ўсё так надзейна і адназначна. І вось ужо не паасобныя каштоўнасці, а наогул хісткасць, нават нейкая безабароннасць культуры цалкам перад агрэсіўнай сілаю «цара бязлітаснага» трывожна і папераджальна апелююць да нашай увагі, і гэткае апеляванне, бадай, складае асноўную праблемную сутнасць кнігі.

З разважанняў І. Штэйнера высвятляецца, напрыклад, што лірыка Марыны Цвятаевай скрозь са слядамі голаду: *«галодная паэтэса ... стварае галодныя вершы»*. Як паяднаць тое з прызнаннем, што *«душа родилась крылатой»*? Леў Талстой, якому голад істотна не пагражаў, наадварот, намерваўся напісаць кнігу пра «жраньё» як татальную праяву чалавечага марнатраўства. Сытым і галодным цесна разам — гэта ўжо сцвярджае амерыканскі пісьменнік Джон Стэйнбек. *«Хлеб зблізае з нябёсамі і Богам»*, — моцны і незаглушаны вякамі пра-голас паганскага светаадчування кранаецца нашага слыху з вуснаў Уладзіслава Сыракомлі. А пазнейшаму класіку беларускай літаратуры Змітраку Бядулю нават сам творчы працэс мог мысліцца цалкам «гастранамічна».

Два станы свету, убачаныя з глыбіняў супрацьстаяння двух вызначальных пачаткаў — хлеба штодзённага і хлеба духоўнага, — дзіўным чынам выбудоўваюць увесь сэнсавы ланцужок гэтага, шмат у чым нязвычнага, чытання. Выпрабаванне «крылатай душы» і душы бяскрылай прынадным акрайцам хлеба па-свойму пераналаджвае маштаб успрыняцця духоўна-этычнага свету, звыкла пабудаваны літаратурай. Звыкласць адыходзіць і знікае ў сумненнях. Цяпер усё нібыта не так: і свет, і літаратура — знаёмыя і незнаёмыя адначасова. Адно ёсць барацьба з другім. Вялікая кніга быцця і вялікая кніга літаратуры на сваіх тытульных разваротах пакідаюць сляды гэтай барацьбы невынішчальным знакам вечнай супярэчнасці паміж памкненнямі чалавека ў бязмерныя высі духу і прымітыўна-пачварнай прыземленасцю ў людской прыродзе. Канфлікт гэты сталы, і крылатай душы, духоўнаўзвышанаму вельмі няпроста супрацьстаяць узмыленаму вершніку галадарнага апакаліпсіса. Акурат такому, які рашучым пагрозлівым жэстам нямога пытання гіпнатычна ўзіраецца ў нас з вокладкі кнігі Івана Штэйнера.

Грозны чорны вершнік, падказвае гомельскі даследчык, неадступна палюе за намі, за вякамі складзенай формулай: вялікая літаратура заўсёды ведала цану голаду і нават з яго вырастала — як супрацьстаянне прымітыўнасці і як абагаўленне велічы. Літаратура і голад суседнічалі заўсёды: *fames atrium magister* (голад — настаўнік мастацтваў). «*Паводле кулінарных схільнасцяў літаратуры*, — *сцвярджае Іван Штэйнер, — можна смела казаць пра стан народа, якому яна належыць*». Ды штосьці ў гэтай вядомай залежнасці перастае спрацоўваць. Бо вось ужо жа: *«Сёння тэлебачанне запоўнена праграмамі, дзе зоркі і тыя, хто лічыць сябе імі, паказваюць, як трэба варыць есці. Прычым настолькі масава, што калі раней ежа была прыдаткам да гаворкі пра літаратуру, то цяпер сталася зусім наадварот. І вось ужо ва ўсім свеце складана знайсці буйны горад, дзе не быў бы рэалізаваны модны праект "Кніга + кава"»*.

Літаратура апынулася пад татальным прэсам сучаснай камерцыялізаванай свядомасці, своеасаблівай «эмоцыяй на продаж». Падобна, і сам аўтар не схільны давяраць праўдзівасці вынайдзенай формулы ды цешыцца яе фінальнай горычы. Тым не менш выдае на тое, што сёння пункт цывілізацыйнай раўнавагі бліжэй да крыватварай грымасы прагматычнага дзелавога інстынкту, чым да той літаратуры, якая па традыцыі сціпла і някідка ўсё яшчэ нясе людству сваё хваравітае сумленне. «Ці вытрымае яна?» — вось пытанне, з якім перагортваеш апошнюю старонку кнігі.

Так, гэта вельмі нязвычнае літаратуразнаўства. Апелюе яно не столькі да самых мастацкіх твораў, колькі да глыбінных сэнсаў, у якіх змест гэтых твораў мае першапачатковае надзейнае апірышча. Чалавеку ўсё ж найбольш цікавым застаецца сам чалавек. Не кароткая ад сваёй устаноўкі на часовую экзатычнасць дэструкцыя, не «трансгрэсія», не так званая канцэптуальна абвешчаная «смерць» аўтара ці чытача, а сам чалавек — з яго калючымі і непрычасанымі праблемамі. Таму і думаецца, што калі ў беларускім літаратуразнаўстве з'яўляюцца працы, дзе адбываецца глыбокае сутнаснае выбудоўванне інтэлектуальнага свету, дзе гэты свет не сімуляцыя, а натуральны працяг у літаратуры анталагічных экзістэнцыйных імператываў, то верыцца і ў надзённы, прывабна станоўчы, сутнасны зрух самога літаратурнага самапачування. Творыцца нешта падобнае да таго, што ў заходняй эстэтыцы прызнаецца за фенамен «літаратурнай тэорыі». Гэта — калі крытычнаму асэнсаванню падлягаюць самі ключавыя быццёвыя паняцці, што скранулі з мёртвай кропкі глыбу чалавечых каштоўнасцяў і праз літаратуру абазначылі неабходнасць прызнання іх за рэальныя каштоўнасці духу. А разам з тым — указалі і на працэс іх нараджэння і на напрамак руху, прыдаўшы так неабходны прысмак эстэтычна адчутых сэнсаў.

У выпадку з кнігай Івана Штэйнера яно — так.

**Ігар ЖУК**

**Дарэчы:**

**Многія выказванні прафесара Івана Штэйнера гучаць правакацыйна. Нягледзечы на тое, што ўсе высновы знакаміты літаратуразнаўца пацвярджае цытатамі з даследчых прац у розных навуковых галінах, усё адно ўзнікае жаданне падыскутаваць. Відаць, найбольш спрэчна гучыць наступны тэзіс: «*Голад аказаў вялікі ўплыў на аблічча літаратуры ўвогуле і беларускай літаратуры ў прыватнасці, якой у значнай ступені якраз і не хапала кавалачка мяса, каб сцвердзіцца да канца*». Ці згодныя з гэтай высновай сучасныя беларускія аўтары, якіх так шырока цытуе ў сваёй новай кнізе І. Штэйнер: Георгій Марчук, Валеры Гапееў, Анатоль Казлоў, Мікола Чарняўскі, Пятро Васючэнка, Андрэй Федарэнка?.. Запрашаем да палемікі.**

# БЫЛОЕ АДГУКАЕЦЦА Ў СУЧАСНЫМ

**Жыццё чалавечае не ведае спыну нават тады, калі недзе на зямлі ідуць войны, руйнуюцца імперыі, падаюць троны. Старэем мы, сталеюць нашыя дзеці, падрастаюць унукі. Адны адыходзяць з гэтага жыцця, а іншыя прыходзяць. Усё сённяшняе на нашых вачах пераходзіць у былое. У гэтай жыццёвай няспыннасці і пераемнасці чалавек заўсёды абапіраецца на памяць.**




Згадваючы потым перажытае, згадваеш і тых, хто быў некалі з табою побач, хадзіў аднымі сцяжынамі, а то і дзяліў з табой апошні акрайчык хлеба, смяяўся і радаваўся, нават плакаў. Колькі ўспамінаў, смешных і сумных выпадкаў успывае часам, калі адчыняеш патаемны куфэрак сваёй памяці! А чаму б не падзяліцца ўсім гэтым з чытачом, калі яно ўжо не зусім такое «асабістае»?

Відаць, з падобнага жадання і з'явілася кніга, якую я сёння трымаю ў руках. Яе аўтар — пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і шэрагу літаратурных прэмій Алесь Марціновіч. Перафразаваўшы Аляксандра Герцэна, аўтар не без інтрыгі назваў сваю кнігу «Былое, але не думы». Хоць, прачытаўшы кнігу, не зусім і згаджаешся з тым, што ў ёй адно толькі былое. Добра праглядаюцца і тыя самыя аўтарскія думы. Падзагаловак дадае: «Сёе-тое з пражытага і перажытага». Тым больш калі аўтар задумваецца над сэнсам жыцця, над яго нечаканымі праявамі, непрадказальнай містыкай некаторых жыццёвых эпізодаў, а таксама хуткаплыннасцю часу ды безвыходнасцю. Ёсць тут тое самае, што прымушае чытача задумацца.

Большасць тых, каго згадвае Алесь Марціновіч, пайшлі з жыцця, даўно ці нядаўна. Адных з іх аўтар называе сапраўднымі прозвішчамі, іншых — толькі першымі літарамі прозвішчаў. Што ж, падобны прыём нярэдка выкарыстоўваецца ў літаратуры. Аўтар звяртаецца да яго з нейкіх сваіх меркаванняў. Не надта і напружваючыся, я прачытваю ў згадках-абразках знаёмыя імёны: Аляксей Кулакоўскі, Нічыпар Пашкевіч, Генадзь Цітовіч, Хведар Жычка, Мікола Гроднеў, Віктар Дайліда… Спіс можна працягваць. Побач з адсутнымі добра пазнаюцца і жывыя, хто й сёння працуе ў нашай літаратуры. У адным з абразкоў нават убачыў сваю асобу, шчыра пасмяяўся, калі згадаў тое, пра што сам даўно ўжо забыўся. Аўтар выступае ў кнізе як сведка, а часцей — як саўдзельнік таго, згаданага. Ён жа і падагульняе ці рэзюмуе тое, што малюе своеасаблівымі фарбамі: дзе гратэскна, дзе падтэкстам ці дасціпным парафраннем.

«Былое» нашае рэдка знікае з памяці чалавека, як бы ён таго ні хацеў. А калі яно яшчэ мае ўсе характэрныя рысы свайго часу, калі гэтае, характэрнае, праглядваецца і ў паводзінах чалавека, самыя вясёлыя моманты заўсёды падагрэюць настрой, прасяць нейкага свайго саўдзелу, увагі. Як прызнаецца аўтар, яго задума якраз вынікала з самой памяці, з тых самых малюнкаў, выпадкаў і момантаў, да якіх ён у свой час дачыніўся. Шматгадовая праца сталася не толькі своеасаблівай літаратурнай школай, але і падаравала А. Марціновічу шмат сустрэч і знаёмстваў з вядомымі творцамі, а з калегамі цесна паядлаў штодзённы клопат.

Сёння, на адлегласці часу, можна ўжо нават з цікавасцю прыадчыняць дзверцы таямніц і сакрэтаў, магчыма, нязручных для часу мінулага. Як кажуць, што было, тое было. Жылі ў сваім часе, па тым жа часе звяралі свае гадзіннікі. Сумным часта называюць той застойны час, але якія вясёлыя сітуацыі ў ім узнікалі самі па сабе, без нейкіх там прыдумак. І як гэта сёння дапаўняе характары даўно вядомых нам людзей! Часам і падрабязныя мемуары не здольныя на такое. Бо яны, як нехта пасмяяўся, пішуцца пераважна тады, калі чалавек ужо мала што помніць. Усё, што некалі лічылася і надта сур'ёзным, сёння чытаецца з добрай усмешкай. Варта згадаць той жа прыём у партыю, які апісвае А. Марціновіч. А для падмацунку — рэкамендацыя самога Івана Шамякіна і згадка пра тое, як яна пісалася.

> *Сумным часта называюць той застойны час, але якія вясёлыя сітуацыі ў ім узнікалі!.. І як гэта сёння дапаўняе характары даўно вядомых нам людзей! Усё, што некалі лічылася надта сур'ёзным, сёння чытаецца з добрай усмешкай. Варта згадаць той жа прыём у партыю, які апісвае А. Марціновіч. А для падмацунку — рэкамендацыя самога Івана Шамякіна і згадка пра тое, як яна пісалася.*

Была свая творчая слава ў колішняга фотакарэспандэнта «ЛіМа» Уладзіміра Крука. З цікавасцю чытаюцца ў кнізе фрагменты, дзе згадваецца гэта паважанае імя. Хай часам даводзіцца і прыўсміхнуцца недзе, але зусім не меншае павагі да працавітага, таленавітага і, магчыма, незаменнага ў сваёй справе чалавека.

Шмат старонак у кнізе адведзена працы аўтара ў раённай газеце. Хто пакаштаваў там нялёгкага журналісцкага хлеба, таксама не застанецца абыякавым, прачытаўшы гэтыя старонкі. Тым больш што яно ўсё не прыдуманае.

Але не толькі пацешныя згадкі складаюць змест гэтай кнігі, ёсць тут і месца для роздуму, суперажыванню, асветленаму спагаднай чалавечай думкай, а то і нейкім шкадаваннем, шчырым душэўным судачыненнем. Трэба пагадзіцца з тым, што сумнае з вясёлым ходзяць побач. Шчыра скажу, усхваляваў мяне ў кнізе А. Марціновіча эпізод са згубленым сабачкам. Усё адбылося ў шумным гарадскім натоўпе. Сабачка, што невядома як адбіўся ад гаспадара, сваім унутраным чуццём выбраў з усіх толькі аднаго чалавека, якому захацеў даверыцца. І гэты давер выпаў на нашага аўтара. Сабачка пабег у метро, прыціснуўся разам з новым гаспадаром у вагон. І вось яны едуць разам. Можна зразумець, што на душы ў аўтара. Ён ведае: дома яго з чацвераногім госцем не прымуць. Ён не можа гэта растлумачыць новаму сябру: «"На Пушкінскай мне выходзіць". Сабачка, нібы прачытаўшы думкі, зірнуў і завіляў хвосцікам. Што, несумненна, азначала: "Згодзен выходзіць з табой". Выйсце бачыў у тым, каб, як толькі цягнік падыдзе да Пушкінскай, адразу выскачыць з вагона і растварыцца ў натоўпе: на гэтай станцыі заўсёды выходзіць шмат пасажыраў. Але сабачка адразу разгадаў мой намер. Як толькі я ўзняўся, ён саскочыў на падлогу, забег наперад і азірнуўся… Хочаце верце, хочаце сумнявайцеся, але ягоны позірк азначаў: "І не брыдка табе ўцякаць? Мы ж з табой сябры, а хіба сяброў кідаюць?". З вагона мы выйшлі разам».

Вельмі чуллівы і амаль містычны малюнак. Прадчуваннем чагосьці незвычайнага, містычнага напоўнены і іншыя жыццёвыя замалёўкі А. Марціновіча. Лагічна завяршае кнігу аўтабіяграфічны запіс «Усё, што не адбываецца, да лепшага», дзе аўтар прыадкрывае нам сваю душу, згадваючы зусім невясёлыя эпізоды. «Жыццё ж працягваецца…» — заўважае напрыканцы А. Марціновіч. — Жыццё, і працяг гэтай кнігі з'явіцца». Таго й хочацца пажадаць аўтару. Кніга прачыталася, як кажуць, на адным дыханні.

**Казімір КАМЕЙША**

# Падручнік па духоўнай сталасці

Як бы імкліва ні змянялася жыццё, колькі б новых сюжэтаў і герояў не стварала, тэмы, што мы называем вечнымі, сапраўды застаюцца... вечнымі. У 2016 годзе ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла кніга Немата Келімбетава — славутага казахскага пісьменніка, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Казахстана, акадэміка Акадэміі гуманітарных навук Рэспублікі Казахстан, лаўрэата прэміі імя Культэгіна (2005) і Міжнароднай прэміі ЮНЕСКА імя Франца Кафкі (2010) «Зайздрасць: Трынаццаць дыялогаў» у перакладзе Г. Аўласенкі і А. Карлюкевіча. Гэта не першая кніга знакамітага дзеяча літаратуры і навукі, выдадзеная па-беларуску. Колькі год таму ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшлі з друку аповесць-маналог «Не хачу губляць надзею» (2014) і эсэ «Лісты да сына» (2015).

Немата Келімбетава не стала ў 2010 годзе. Сёлета прыхільнікі яго таленту адзначаць 80-годдзе з дня нараджэння творцы. Літаратурная творчасць казахскага пісьменніка перакладзеная на шматлікія мовы і мае сваю чытацкую аўдыторыю ў многіх краінах.

Новая для беларускага чытача кніга «Зайздрасць: Трынаццаць дыялогаў» скампанаваная ў форме сяброўскай размовы паміж аўтарам і... А вось тут кожны можа выбраць сабе ролю: або стаць суразмоўцам аўтара, або назіраць за дыялогам збоку. Немат Келімбетаў разглядае зайздрасць як загану і ў той жа час як частку чалавечага існавання ў шырокім сацыяльна-культурным кантэксце. Не толькі змены ў лёсе асобнага чалавека цікавяць суразмоўцаў. У прадстаўленых дыялогах яны абмяркоўваць згубны ўплыў зайздрасці (і хцівасці, сквапнасці, пыхлівасці як яе разнавіднасцяў) на тэндэнцыі развіцця сучаснай палітыка-эканамічнай сферы.

Звяртаецца аўтар кнігі і да сучасных псіхалагічных даследаванняў. Напрыклад, сёння ўсё больш папулярнай становіцца ідэя пра тое, што нашыя заганы насамрэч ёсць перакуленае адлюстраванне нашых станоўчых якасцяў. Вось што пра гэта пісаў аўтар дыялогаў: «Звычайна па-сапраўднаму зайздросныя людзі бываюць вельмі падобнымі да таленавітых акцёраў, толькі выступаюць яны не на сцэне, а ў сапраўдным жыцці. Насоўваюць маскі высокаадукаваных і высокакультурных, светлых, шчодрых людзей. І не здымаюць гэтыя свае маскі ні дома, ні на вуліцы, ні на службе». Немат Келімбетаў аналізаваў з'яву з розных глядзішчаў — псіхалагічнага, маральнага, сацыяльнага, нават побытавага, — але галоўная думка гучыць адназначна: зло ёсць зло, а дабро ёсць дабро. Гэтае сцверджанне не карэктуецца аніякімі эпітэтамі і ўдакладненнямі.

Імкненне данесці да сваіх сучаснікаў важнасць высокіх маральных прынцыпаў як своеасаблівай абароны ад хваробы абыякавасці, якая спараджае цынізм і жорсткасць у людскіх узаемадачыненнях, — асноўны пафас кнігі. Нездарма аўтар прадмовы акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Арнольд Смеяновіч выказаў меркаванне, што «такія кнігі як "Зайздрасць" павінны станавіцца ўніверсітэцкімі падручнікамі. Усе іх раздзелы можна ўключаць у праграму школьнага навучання. І болей таго: такія яркія, пераканаўчыя кнігі варта дарыць маладым людзям, якія ўступаюць у жыццё... Чаму б, напрыклад, разам з пашпартам юнакам і дзяўчатам не атрымліваць такі падручнік духоўнай сталасці?!». Сапраўды, падручнікаў па «духоўнай сталасці» сістэма адукацыі пакуль не вынайшла.




Немат Келімбетаў у сваіх дыялогах не проста выказваў асабістыя меркаванні на пэўныя тэмы, не толькі спасылаўся на свой асабісты жыццёвы досвед, але і шукаў карані псіхалагічных і маральных заганаў у глыбокай старажытнасці. Гэтым самым нібы прымушаў задумацца над сур'ёзнасцю праблемы, «неразлучнай» з чалавекам на працягу усёй гісторыі цывілізацыі. Тое, што ў нашай штодзённасці здаецца нявартым увагі, дробязным (дыялог № 9 «Хлусня, плётка, пахвальба...»), насамрэч ёсць сапраўднай вайна паміж людзьмі, толькі зброяй выступаюць словы. А імкненне «знішчыць словамі» адно з самых небяспечных і чалавецтва не раз мела жалобную нагоду назіраць, як звычайныя словы — прамоўленыя або занатаваныя на паперы — нішчылі людскія лёсы.

Дыялогі Немата Келімбетава можна чытаць у розным парадку, можна перачытваць, звяртаць да найбольш запамінальных альбо актуальных у канкрэтнай жыццёвай сітуацыі. Гэта сапраўды «падручнік па духоўнай сталасці», які будзе цікавы людзям розных узростаў і розных прафесійных зацікаўленняў.

***Жанна КАПУСТА***

*Кніга прадстаўлена Кнігарняй пісьменніка, вул. Казлова, 2*

## Вера БУРЛАК:

# «Мадэрнізм і казкі пра Алісу — гэта сцяжынкі ў адзін бок...»

**Ці трэба прыдумляць жарты, якія засмучаюць? Якія словы самыя ганарыстыя і інтэлігібельныя? Ці магчыма, каб мяне не было нідзе, бо я толькі частка чужога сну? Напэўна, над гэтымі пытаннямі Вера Бурлак задумвалася нашмат раней, чым узялася перакладаць казку Льюіса Кэрала «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса». Пераклад знакамітай казкі вельмі добра стасуецца з творамі і навуковымі працамі спадарыні Веры. Але размову пра новую кнігу мы распачынаем згадкай пра тых людзей, без падтрымкі якіх кніга з дзівоснымі ілюстрацыямі Кацярыны Дубовік наўрад ці пабачыла б свет...**

**— Збор сродкаў на выданне кнігі — гэта актыўныя стасункі з магчымымі спонсарамі і чытачамі. Ці зрабілі вы ў гэты час нейкія адкрыцці адносна стаўлення беларусаў да беларускай літаратуры і беларускай кнігі?**

— Галоўнае, што цікавасць да дзіцячай літаратуры сапраўды ёсць. Але найбольшай папулярнасцю — «як гарачыя піражкі» — карыстаюцца кнігі для дзяцей гадоў да сямі. Іх могуць хутка раскупіць, калі добра выдадзеныя. «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» — твор больш спецыфічны, для дзяцей ад 9 — 10 гадоў і для дарослых. Чытачы рознага ўзросту адкрываюць розныя пласты сэнсаў. І кнігай цікавяцца! Напрыклад, мы даведаліся пра некалькі беларускіх сем'яў, дзе Алісу калекцыянуюць... У адной сям'і маецца некалькі дзясяткаў выданняў Кэралаўскіх казак. Думаю, гэта звязана яшчэ і з тым, што такія творы можна перакладаць бясконца, кожны пераклад на іншую і на тую самую мову будзе па-новаму цікавы, гэта не адзін і той самы тэкст. Тут можна рабіць розныя адкрыцці і знаходкі. Таксама адметна, што кнігу купляюць у падарунак Алісам — гэта цяпер папулярнае імя.

**— Наколькі казка «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» значная для англійскай літаратуры?**

— У Брытаніі гэта адна з самых прэцэдэнтных, самых цытаваных кніг. Кажуць, што больш за Кэрала цытуюць толькі Біблію і Шэкспіра. Адразу адзначу, што Льюіс Кэрал — аўтар некалькіх казак. *Alice's Adventures Under Ground*, 1864 («Прыгоды Алісы пад зямлёй») — першы варыянт казкі пра падарожжа Алісы пад зямлю следам за незвычайным трусікам. Кэрал у рукапісе перадаў гэтую казку Алісе Лідэл, але яна доўгі час не друкавалася і не перакладалася. Цяпер выдадзеная, ёсць пераклады, але яна не лічыцца «кананічным тэкстам». *Alice's Adventures in Wonderland*, 1865 («Аліса ў краіне цудаў») — першая з выдадзеных казак Кэрала. *Through the Looking-Glass, and What Alice Found There*, 1871 («Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса») — другая з класічных казак. Гэтыя творы Кэрала вельмі істотныя для англамоўнага свету, яны звязаныя з базавымі канструкцыямі ў мове, фальклоры, свядомасці. Для другой паловы XIX стагоддзя гэтыя канструкцыі былі пераасэнсаваны Льюісам Кэралам абсалютна па-новаму і адкрывалі новыя перспектывы. XX стагоддзе ў прынцыпе было перанакіравана літаратурай нонсэнсу — яна папярэднічала новым адкрыццям у фізіцы, матэматыцы, логіцы, адкрывала новыя шляхі, і Кэрал тут — адзін з самых моцных першапраходцаў. Кніжку цытуюць нават у назвах, у творах, бяруць шаблоны з таго, як гэта кніга зроблена, бо сучасныя гульнёвыя творы часта выкарыстоўваюць традыцыю нонсэнсу — яна ідзе з фальклору, уласцівая брытанскай дзіцячай літаратуры «ад нараджэння», і Кэрал яе ўдала ўвасобіў.

**— Колькі часу вы прысвяцілі працы над перакладам?**

— У 2008 годзе наведвала перакладчыцкую майстэрню Андрэя Хадановіча і яшчэ не мела вялікага перакладчыцкага досведу. Тады выйшла казка «Алесіны прыгоды ў Дзівоснай краіне» — у перакладзе Макса Шчура, другая казка яшчэ не была перакладзена, і Андрэй Хадановіч прапанаваў мне ўзяцца за яе. Пачала перакладаць для свайго задавальнення: твор зацікавіў, там было шмат вершаў. Перакладаць вершы Кэрала — задача складаная, аднак папрацаваць было займальна. Вершы перакладаліся хутка, але даволі доўга вошкалася з прозай. Агулам спатрэбілася больш за год, каб перакласці твор, але я не спяшалася, бо спалучала гэту справу з выхаваннем сына. Англійская мова заўсёды падабалася, таму я здолела яе вывучыць у старэйшых класах. Але скончыла філалагічны факультэт БДУ па спецыяльнасці «Руская філалогія». Таму цяпер прыслухоўваюся да заўваг, якія ёсць па перакладу, і разумею, што па некаторых момантах трэба пачытаць, павучыцца, звярнуцца да рэдактараў, якія могуць нешта падказаць.

**— Пераклад кнігі Льюіса Кэрала на беларускую мову можа стаць выдатным падарункам для дзяцей і дарослых. Якія іншыя вашыя кнігі маглі б стаць такім прэзентам для чытачоў?**

— Мне здаецца, што недзе ёсць той чытач, для якога кожная мая кніга будзе адкрыццём. Уласныя мае творы досыць спецыфічныя, звязаныя з традыцыяй, якая была асэнсавана няпоўна, і цяпер далёка не сярод папулярных літаратурных традыцый. Вельмі моцна на мяне паўплывала традыцыя рускага мадэрнізму, а таксама брытанская літаратура віктарыянскай эпохі. Чытач можа арыентавацца на знешні выгляд выданняў. Калі яму спадабалася вокладка, то, верагодна, спадабаецца і змест. Дызайнеры заўсёды раяцца з аўтарам, як ён бачыць кнігу, і я вельмі ўдзячная ім за працу. Аздабленне кніг — знакі таго, што мне цікава. У першую чаргу гэта прымітывізм: кніга «За здаровы лад жыцця» праілюстраваная маімі малюнкамі, зробленымі ад 3 да 5 гадоў. Кніга «Дзеці і зданi» аздоблена карункамі (была просьба да дызайнеркі, каб выкарыстоўваліся хэндмэйдавыя матывы, каб вокладка выглядала старой і зашмальцаванай). У зборніку прозы «Творы соннага жанру» на вокладцы — вялікае манахромнае пяро. Так, ім пішуць, але яго можна паразглядаць у фармаце макра, бо яно прамалявана дэталёва. Гэта мне таксама вельмі цікавіць: узірацца ў свет, у абрысы звыклых рэчаў, якія звычайна не заўважаюцца.



*Вера Бурлак.*

**— Зборнікі вашых арыгінальных твораў і казкі Льюіса Кэрала — кнігі з розных паліц, адрасаваныя рознай аўдыторыі. Чым імпануе вам творчасць брытанскага пісьменніка?**

— У літаратуры мадэрнізму і ў творчасці Кэрала ёсць кропкі судакранання. Цікаўнасць да аднаго і другога не выпадковая. Чым вабіць мадэрнізм? Настаўніца па сальфеджыа ў музычнай школе аднойчы дала мне пачытаць Мікалая Гумілёва, я нічога не зразумела, але там былі такія незвычайныя павароты думкі, асабліва ў паэме «Зорны жах»!.. Я не чакала, што можна разважаць такім чынам і ў такой паслядоўнасці. Захапленне «віражамі думкі», фантастычнымі карцінамі свету засталося з дзяцінства. У Кэрала назіраем тое ж, іншая культурная база, але атмасфера твораў перагукаецца, бо ў Кэрала незвычайнае, арыгінальнае мысленне.

Яшчэ адзін момант — моўныя, ці фармальныя, гульні. Для мадэрнізму вельмі значныя фармальныя пошукі, у авангардызме яны на першым плане. У Льюіса Кэрала гэта таксама знаходзім. Ён мае выдатнае пачуццё гумару, што асабіста я цаню высока. Атрымліваецца, што мадэрнізм і казкі пра Алісу — сцяжынкі ў адзін бок.

Наогул, мне нецікава перакладаць звычайны празаічны тэкст: пачынаю сумаваць, часам нават цяжка перадаць эмацыянальнасць. Льюіс Кэрал — яшчэ і лірык, шматгранная асоба: у яго вельмі лірычныя фота, ёсць і эмацыянальныя вершы, лірычныя пасажы. Я вельмі старалася перадаць тонкія, няўлоўныя пачуцці: напрыклад, атмасферу лёгкага суму, калі Аліса зрывае гарлачык і кажа, што самыя прыгожыя заўсёды далей за ўсіх... Гэту атмасферу трэба ствараць, пралічыць яе немагчыма. Спадзяюся, што ў мяне атрымалася, але тонкая эмацыянальнасць — яўна не адметная рыса майго перакладу. Цэлую кнігу лірычнай прозы, дзе няма моўных гульняў, рыфмы, рытму, не адужала б. Мне падабаюцца творы, дзе можна за нешта фармальнае лёгка зачапіцца і далей гуляцца...

**— Бібліятэкары, якія паспелі пагартаць вашы зборнікі вершаў, пакуль тыя знаходзіліся «на выдачы», вельмі здзіўляліся: чаму так страшна, так сумна, так эпатажна? І сапраўды: чаму?**

— Страшнага і сумнага ў жыцці шмат. Калі ў мяне з'явілася дзіця, пасля ўсіх момантаў, звязаных з нараджэннем, паўстала пытанне: як наогул у гэтым свеце жыць і не баяцца? Радзільня, бальніца, дзіця расце, пачынаеш знаёміцца з інфармацыяй, у якую ўвогуле не зазірала... Так адкрываюцца рэчы жахлівыя: чалавек насамрэч — вельмі крохкае стварэнне, ён часам вельмі блізка падыходзіць да смерці, але жыве. З гэтым разуменнем трэба гадаваць дзяцей, а яны такія пяшчотныя, мяккія стварэнні і глядзяць на свет наіўнымі вочкамі... Да таго ж — адчуванне блізкасці свету памерлых... Мяне з дзяцінства вельмі цікавіла блізкасць мяжы, за якой пачынаецца нешта іншае. Гэта адчуванне просіць выйсця, што і адбываецца ў творах: я зазіраю ў свет памерлых, у свет сноў, і часам гэта атрымліваецца гумарыстычна. У многіх творах жыццё, нягледзячы на выпрабаванні, перамагае, як у казцы «Яшчэ адна сняжынка».

Наогул, у кожнага ў галаве свой хаос, зачынены за сямю дзвярыма, але людзі не хочуць з гэтым судакранацца. Напэўна, сярод маіх чытачоў больш людзей, у каго гэтыя дзверы не зачынены. Вядома, казку Льюіса Кэрала будуць чытаць больш, чым мае арыгінальныя творы. Але ва ўласнай творчасці важней выказацца, чым набыць чытачоў, у мяне няма маркетынгавых памкненняў.

**— Магчыма, справа таксама ў тым, што беларускія чытачы глядзяць на паэзію пераважна традыцыйна, — а ў Брытаніі, напрыклад, дапускаюць большую разнастайнасць мастацкіх падыходаў?**

— Шырыня эстэтычных магчымасцей чытача можа быць рознай у розных культурах. Але кола чытачоў, якія маюць рафінаваныя густы, заўсёды вузкае. Увогуле ж кожны выходзіць са свайго кантэксту і суадносіць твор з тым, што ведае, што вылучае на першы план. У паэзіі мы шукаем нешта сваё, а я як чытач стараюся нічога не шукаць. Трапляе ў рукі новая кніга, і мне проста цікава, што там, бо літаратура — гэта магчымасць пашырыць сябе. Калі чалавек бачыць тэкст у слупок і чакае лірыкі, а там не лірыка, ён думае: «Гэта нешта не тое». А можа, творы добрыя, проста чалавек чакаў не гэтага. Аднойчы мне зрабілі заўвагу, што пішу нелірычныя вершы. Так і ёсць, але кожны робіць тое, што яму дадзена...

**— Ці ўбачылі вы новыя перспектывы для сваёй літаратурнай творчасці дзякуючы перакладу казкі Льюіса Кэрала?**

— Хачу перакласці першую казку Кэрала, бо абодва гэтыя творы — як адзінае цэлае. Яны ўжо ўзноўлены на беларускую мову Максам Шчурам і Дзянісам Мускім, але перакладчыкі выкарыстоўвалі розныя падыходы, таму лічу, што гэта ўзаемадапаўненне, а не канкурэнцыя. У свой час перакладала з рускай і з украінскай моў. Украінская мова родная мне па паходжанні, першыя дзіцячыя гады правяла ў Кіеве, таму вельмі прыемна судакранацца з ёю. Але ў найбліжэйшы час хочацца засяродзіцца на англійскай літаратуры, увайсці ў англійскую мову, культуру. У мяне заўсёды гарэць вочы ад гатычнай прозы. Прыкладам, выдатны брытанскі празаік Монтэгю Родс Джэймс, пісаў на пачатку XX стагоддзя. Медыявіст, штогод ствараў калядныя апавяданні-жахалкі і чытаў калегам. Пакуль што пераклала толькі адно яго апавяданне — «Студня стогнаў», якое друкавалася ў часопісе «ПрайдзіСвет», і надалей збіраюся звяртацца да яго творчасці. Ёсць і іншыя планы, але пакуль пакіну іх у сакрэце.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Казімір КАМЕЙША



## Прыступкі

Згаджайцеся. Пойдзем. А вунь ён,
Дом друку.
Ёсць лесвіца там. Уся з даўняга груку.

Нявузкі пралёт, цяжка ўлежаны мармур.
Што пройдзеш — не будзе забытым
і марным.

Яе шліфавалі такія падэшвы.
Скрыпелі і беглі. Згубіліся. Дзе ж вы?

На гэтай знаёмы мне твар усміхнуўся.
Калісьці Бялевіч на ёй паслізнуўся.

А гэта знямела ад грому і шарку:
Вялюгіна, мабыць, згадала цыгарку.

А гэта бы ўсыпана леташнім снегам,
Яна Блатуна добра помніць і Шлега.

На гэтай Вярба, як сінічка, скакала,
З такой, мабыць, падаў калісьці Купала.

Адзін за адным і Пестрак, і Прыходзька
Прайшлі. Вы таксама, панове,
праходзьце!

Здаецца, і я вам знаёмы, прыступкі.
Мы — зерні адной незайздроснае ступкі.

Таўкуць таўкачом нас грымотнай эпохі.
І знікнуць, забудуцца «ахі» і «охі».

Ах, дзе маладосць мая?
Цокні, прыступкі!
Пяюць пад абцасікам гожым прыступкі.

Як гром, грукаталі. Звінелі струною
І ціха ўздыхалі над ранняй труною.

Адным вы — як клавіш з чужым
перламутрам,
Нацёрты чыімсьці фасоністым футрам,

А іншым — старонкі і бляск каленкора,
Ці проста худзенькі партфелік спецкора.

А тых, хто грымеў, залацеў у кілішку,
То кульба вядзе за руку, то задышка.

Ну хоць бы падэшвай вунь тую
намацаць,
Салодка было па якой уздымацца!

А хто гэта там, дзесь наверсе, гамоніць?
Расцягвае Дом свой прыступак гармонік.

І я прыпыняю хаду, заміраю.
Пра што ён, вясёлы, сягоння іграе?

Пра тое, што пройдзена векам,
прайграна,
Пра тое, што ёсць яшчэ дзверы і ганак,

Ды там не пускаюць кагосьці чамусьці.
А ў памяць, не бойцеся,
кожнага пусцяць!..

***

Дзмітрыю Косціну

Быў некалі я ў тваім узросце
І ведаю ўсе хітрыкі яго:
Душа яшчэ ў абдымках маладосці,
А сталасць шле свае ўжо наўздагон.

Хаваецца пяцёрка за чацвёрку,
І светла, і вясёла галаве,
І чарка, што была калісьці горкай,
У рот салодкай роспачу плыве.

На ўсіх суровых часу пераправах,
Дзе лучацца адзінствам берагі,
І слава, як глыток гарачай кавы,
Смяецца нам на беразе другім.

Дарога дзён пражытых не вяртае,
Хады яе не варта суцішаць,
Ды толькі ўсё, чаго душа жадае,
Няхай і мае добрая душа!..

***

Усё квяцісцей лугу сукня,
Ліецца сонца аж зашмат.
Сваёй красой зямля красуе,
Чужой красы ў яе няма.

Хай дзесьці маняць моды мёдам,
Найцёплым хутаюць крылом,
Лепш наша, з ветрам, прахалода,
Чым тое райскае цяпло.

Не прыглядайся да чужога,
Хоць і зайздроснае яно —
Спакус і зваб у свеце многа,
Ну а жыццё, яно адно.

Жыцця прытомлены гадзіннік
На новы круг не завядзеш.
Хадзі, як да цябе хадзілі,
І будзь удзячны ёй, хадзе!..

Галіна РАГАВАЯ



***

Не спакушайце кватэраю,
Вуліц каменнай красой.
Цягне да роднага берага
Птушку палескіх лясоў.

Горад завабіў кар'ераю,
Зычыць дастатак і рай.
Але штомесяц я мераю
Сцежку ў найлепшы той край,

Дзе пад знаёмымі вербамі
Ранкам раса на траве
Пераліваецца перламі.
Там маё сэрца жыве.

Буду ў размовах з сяброўкамі
Думкі ад смутку лячыць.
Толькі пад тымі аблокамі
Лёгка мне крокі лічыць.

Мне там, жытнёвае, роднае
Коласам поле звініць.
Я — толькі птушка залётная
Між гарадскіх камяніц.

***

Зямля мая, мой кут адзіны,
У сонцы, ў зорах давідна.
Не выбіраем мы радзімы —
Нам лёсам дадзена яна.

Але, каб выбраць давялося
З усіх радзім сабе адну,
Зноў узяла б і нашу восень,
І нашу светлую вясну,

Як сэрцу любае багацце —
Прашыты кветкамі мурог,
Здабытак сціплы ў роднай хаце
І гэты мяккі пыл дарог…

Не трэба краю мне чужога.
Здалёк гатова я брысці,
Каб ля бацькоўскага парога
Малой травінкай прарасці.

А можа, лісцікам на дрэве
Глядзець з пяшчотаю наўкол
І гойдацца ў птушыным спеве
Пад неразвон руплівых пчол.

Калі ж да вечнага спачынку
Пакліча родная зямля,
Лістком з бярозавай галінкі
На дол упасці ля камля.

***

І зноў зіма марозамі застудзіць
І пойдзе снег. А ўлетку будзе дождж.
Ці з намі, ці не з намі гэта будзе?
Праз год? Праз месяц? Але будзе ўсё ж.

І будзе росны ранак. Будзе радасць
Бурліць-пералівацца цераз край.
І промні сонца з неба будуць падаць —
Лаві свята, у прыгаршчы збірай!

Паўторыцца ўсё. Але не гэтак.
Абрыс аблокаў будзе не такі,
І трохі не такое будзе лета,
І не такая музыка ракі,

З гучаннем іншым — ручаінак плёскат.
А кветкі — каляровы ўбор зямлі —
Няўлоўнымі адценнямі пялёсткаў
Адрозніцца ад тых, што адцвілі.

Сняжынкі будуць на далонь спускацца.
Ды ўжо малюнкам іншым здзівяць нас.
Давай красой зямною захапляцца,
Нібыта ў першы і апошні раз!

## Мама

Ішлі з табой пад небасхілам,
Адкуль і грэла, і пякло.
І ты употайкі дзяліла:
Сабе — спякоту, мне — цяпло.

І у зімовы дзень пагожы,
Калі марозіла да слёз,
Дзяліла зноў, як маці можа:
Каб сонца — мне, табе — мароз.

Улетку, як пярун гняўлівы
У небе чэрвеньскім злаваў,
Ты выбірала сабе лівень,
Мне — чысціню вільготных траў.

Адстала ты ў шляху наблізкім.
Я ж коней стомленых ганю.
І апякаюць мяне іскры
Жыцця няўмольнага агню.

Ды не ўратуюць рукі мамы —
Прадуць тры паркі лёсу ніць.
А небасхіл увесь той самы
Ўжо нада мной адной вісіць.

Юрась ШАМЕЦЬКА



## Непрадказальнае

Сустракаючы непазбежнае,
я знаходжу сябе ў абставінах,
дзе жыццё мае — рэха вечнага —
лёгка шырыцца плыняй памяці.

Дзе на ростанях паралельнасці,
на вышынях нязвыкла белага
я шукаю жыцця ўзаемнасці,
не цураюся неба смелага...

А ад нас застанецца лепшае
на шляхах заўжды супярэчлівых,
у абставінах супрацьлеглага
дабрынёй мы заўсёды вечныя...

Застанёмся святлом у раніцу,
росна-дрогкімі, прывітальнымі,
дзе так любіцца, дзе так марыцца
на вышынях непрадказальнага.

## Беларуская Атлантыка ў бухце Пегі

1

Вакаліз акіяна,
незлічоныя гукі...
Я элегію чую
ў бясконцасці руху...
Хваляў цяжкіх, халодных
адчуваю свабоду,
і шукаю спаткання
з суцяшальнай прыродай.

Холад ветру стальнога
чыстым спевам натхняе...
Акіян вольным духам
час зямны прыпыняе...
Птушцы ў доўгім палёце
ён дарує падтрымку,
замірае навечна
на маім фотаздымку.

Тут па беразе доўгім
крочу далей і далей,
хваляў плёскат працяглы
мой настрой уздымае...
Гукаў гнуткіх ласкавасць —
непаўторная мова...
Для сябе пазычаю
мне патрэбныя словы...

2

Свет бачыцца недасканалым,
шурпатым, часта ганарлівым...
Журботны ж шолах акіяна
і хвалі мудрасці глыбіннай
нас да сябе заўсёды клічуць,
каб нам штосьць новае пазычыць.

А мы гатовыя шукаць
сябе на беразе пустынным
і на пяску, заўжды маўклівым,
пра заканханасць напісаць,
пра смутак гордай адзіноты,
пра рэзананс нячутных нотаў...

Няроўна-спеўны гук вады
ужо з табой не заўважаем,
ў адным прасторы — я і ты,
і акіян — любоў зямная...
Свята спагаднага бязмежжа,
дзе мы адны на ўзбярэжжы...

## Шагал

Нашае жыццё
не наступіць двойчы...
Не стане даўнім,
не пойдзе прама...
А мы, магчыма, паляцім
аднойчы,
як на карцінах
Марка Шагала...
Пазбегнем журботы
свайго маўчання...
Віцебск — Лёзна,
дамы, нібы хмары...
Беларусь —
тэма для навучання
па карцінах
Марка Шагала...

Зялёны скрыпач...
Жыццё без адчаю...
Блакітны дом...
А сонца так мала...
Кропелькі фарбы —
мовы гучание
ў радках вершаў
Марка Шагала.

***

«Пішы, як іншыя не пішуць, —
казаў знаёмы мне паэт, —
І навучыся слухаць цішу, —
там нараджаецца сусвет».
І хоць вагаўся ў хваляваннях,
жыццё дало мне зразумець,
як у натхненні вяршавання
магчыма адшукаць свой верш, —
той, што раздзеліць адзіноту,
растопіць нежаданы сум,
распіша для душы палёты,
працягне вольнасць даўніх дум...
І мне пісаць, — шукаць нагоду
спазнаць амаль што без прынук
хмяльнога лета прахалоду
і слоў кранальны, чысты гук...



Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ

# ЖЫВІЦА

*Апавяданне*



Віхура пачалася пад самую раніцу. Вецер стагнаў пад дахам. «Та-та-та!..» — ляскаталі прыўзнятыя ветрам лісты шыферу. Павыцягвала нават старыя заржавелыя цвікі з засохлых, быццам старая костка, латаў. Ляскатанне, стогны і віск ветру разбудзілі Васіля.

— Толькі б на хаце шыфер не адарвала... — устрывожыўся ён.

Пра хлеў і казаць няма што: падмурка даўно ўжо няма — свінні павыгрызалі, павырывалі вялізнае каменне, драбнейшае з'елі, быццам качан кукурузы.

Дах некалі бацька крыў. Хата была з прыбудовай, няхай не раскошная, затое месцілася ўся вялікая сям'я. Але два пакаленні адышлі ў лепшы свет. Пастаўленая на чатыры камяні хата паціху садзілася ўсё ніжэй да зямлі. Прыбудову, дзе звычайна стаялі бочкі з капустай і агуркамі ды скрыня з салёным салам, ладзілі значна пазней. Адсюль — лаз у склеп з бульбаю. Бывала, і сюды залазіў мароз.

Раней мала хто ставіў хаты на падмурак: на камяні ці штандары — дубовыя метровыя калодкі, укапаныя ў зямлю па вуглах. За доўгія гады і камень палез у зямельку, і калодкі струхнелі. І ў яго хаціне падліты ўжо значна пазней падмурак патрэскаўся, абсыпаўся. Па вясне і куры дапамагалі, шукаючы які каменьчык для наталення свайго валля. Ветраным, сцюдзёным надвор'ем па хаце гуляла свежасць. Дзеці часта хварэлі, усю зіму кашлялі. Ніна, Васілёва жонка, у такую часіну з болем і дакорам у вачах глядзела на мужа.

— Шафёрам працуеш, а дзеці снежнай коўдраю накрываюцца... Пайшла во за цябе замуж, не думай, што скажу чэснага, — бесталковага. Дзеці ад хваробы ніяк не адыдуць... Забіла б, — дадавала з'едліва...

Васілю ў такі момант хацелася злосна агрызнуцца, але, пакрыўджаны, а больш зняважаны, ён маўчаў. Ды і словы чамусьці не знаходзіліся, і язык як бы анямеў. Праўда, праз якую хвіліну ўслых разважаў:

— Па-першае, красці не навучыўся, і быць рыхтыкам з некаторымі ты мяне не заставіш. А па-другое, ну дзе грошы такія возьмеш? Ты ж ведаеш, што заробак да капейчыны аддаю і прэміі толькі ў хату нясу... Час такі, дарагая мая! І дрэва цяперака спелага няма, алоўкі адны рэжуць. А з буралому ёсць для каго адбіраць... А будыніну нашу трэба не толькі шаляваць, а і ўцяпляць...

— Хопіць! Дрэннаму танцору... — гнула сваё Ніна. — Людзі вунь неяк прымудраюцца: хаты лепшыя на вёсках паскуплялі, адбудаваліся... Лазні розныя... Нам лішняга не трэба... Дзеці ж растуць. Ці ты не бачыш?..

Ніна магла ўшчуваць доўга, пры гэтым яшчэ штось і прасавала проста на стале, і гатавала ў печы. У такія хвіліны яе рухі станавіліся хуткімі, рэзкімі. У страху, што раззлаваная жонка чыгун з кіпенем ці якое варыва аберне ў вуголле, Васіль выходзіў з хаты.

Васіль, па сутнасці, быў часткова згодны з жонкай, па-добраму зайздросціў тым маладым сем'ям, што, як кажа жонка, «пахапалі» сабе лепшае. Адзін ён...

Некалі побач з Васілёвым раскашавала дварышча старой Мілашыхі, якую абыходзілі суседкі, а калі што распавядалі, дык толькі паўшэптам. Але пасля свайго хваравітага гаспадара нядоўга працягнула і яна. Хата засталася пуставаць. Сын недзе па заробках бадзяўся, а вярнуцца да маці ахвоты вялікай, відаць, не меў. Нават на пахаванне не паказаўся. Можа, таму, што, як і вяскоўцы, пабойваўся маці-чараўніцы.

З усяго пачутага ад жонкі ды суседзяў Васіль лічыў, што і сапраўды хата стаіць у дрэнным месцы. І скаціна ў бацькоў не вялася. І сварак тут заўжды хапала...

Як не стала Мілашыхі, хаціну разабрала на дровы суседка Юзэфа. Тая, як стала прадаўшчыцай, пабудавала сабе новую хату з добрага лесу. Побач заставаўся вялізны пляц свабоднай зямлі, якая не абраблялася. Працавала Юзэфа да самай пенсіі ў адным з магазінаў райцэнтра. Мела ўсё, што толькі магла мець поўная сям'я. Муж памёр ад сухотаў, дзеці жылі па розных гарадах Расіі ды Беларусі.

Даўно марыў Васіль паставіць сабе хату на адкрытым месцы: так, каб вокны глядзелі на ўсход і поўдзень, каб святло праз іх у хату лілося, каб дзеці весяліліся.

Часцяком любаваўся Васіль тым папарам. «Можа, папрасіць гэты пляц у Юзэфы? Толькі як падысці да яе? У сельсавет звяртацца? Не, пракляне на ўсё жыццё, калі на маю карысць вырашаць. Трэба шукаць свае падыходы...»

І вось цяпер, калі надрыўна шуміць неўтаймоўны і беспрытульны вецер у верхавінах елак ды соснаў, што гул гэты перадаецца трапяткім асінам, якія растуць побач з соткамі, Васіль не пераставаў думаць, як падысці да Юзэфы, выпрасіць тую зямельку.

У хаце было цёмна і сцюдзёна. Цягнула адусюль: з вокнаў, з-пад падлогі.

«Мусіць, не трэба чакаць, пакуль дадуць лепшае жыллё, а папрасіць выпісаць дрэва на подрубы, перасыпаць сваё. А вокны знаёмы з суседніх Смаргоняў майструе. Але, можа, пакуль збяруся да Юзэфы звярнуцца…» — разважаў Васіль.

Жонка спала на шырокім драўляным ложку разам з дзецьмі. «Каб хаця не прастудзіліся зноў», — устрывожыўся Васіль...

Машынны двор знаходзіўся за чатыры кіламетры. Паснедаўшы варанай капустай з каптанкамі і дранікамі са скваркаю, Васіль накіраваўся на работу.

Ля платоў высіліся доўгія сумёты, якія нагадвалі вялікіх белых кітоў. Браты-грэйдарысты з дарожнага ўпраўлення ўжо чысцілі бальшак амкадораўскім жоўтым волатам. Шафёры і механізатары залівалі ў радыятары цёплую ваду. Хто парупіўся, набыў тасол і цяпер лёгка завёўся. Для ўсіх аўтамашын на ахаладжвальную вадкасць грошай нестае, хаця б для старшыні на легкавую. Некаторыя ўжо прагрэлі сваю тэхніку і мелі на руках пуцявыя лісты.

Яшчэ ўчора брыгадзір сказаў Васілю, што ён будзе вазіць на сваёй новай «пяцьдзясяттройцы» зерне са склада на млын.

У люстэрка задняга віду ўбачыў: да яго машыны кіруе, кульгаючы на левую нагу, стары Броніcь, загадчык склада. Васіль адчыніў дзверцы кабіны:

— Здароў!

— Васіль, трэба цялятніцам памагчы.

— А я пры чым тут?

— Каня забралі на другую ферму. Няма на чым цялятам муку прывезці.

— Адкуль, з «Бама»?

— Ну!

— А ці даеду я?

— Там ужо калгасны гусенік расчысціў.

— А грузіць таксама жанчыны будуць?

— Не, ёсць два аболдусы там, на «Баме».

«Бам» знаходзіўся далей за былую ферму, за якія тры кіламетры ад Вішнёўкі. Так называлі новыя карпусы жывёлагадоўчага комплексу, пабудаваныя падчас гарбачоўскай перабудовы. У час веснавога разводдзя ці асенняй слоты каля будынкаў гэтых было хоць плавай па калатнечы...

Двое маладжавых, але не надта прывабных мужчын стаялі сярод склада, перад імі — насыпаныя мукой мяшкі. Моцна размаўлялі. Было бачна, што вышэйшаму, Лявону, холадна ў падрапаным кароткім палітончыку і гумовых ботах, не па сезоне. У яго трэсліся плечы, ён прытанцоўваў, але чароды галубоў ды вераб'ёў гэта не пужала: добра падсілкаваўшыся, яны па прыроднай завядзёнцы вялі свае спрэчкі, адчуваючы сябе гаспадарамі.

Лявон жыў адзін. З жонкай разышоўся, хаця казалі, што яна яго адцуралася. Выйшла замуж за другога, нарадзіла дзіця. Мужчына трапіўся працавіты, непітушчы, меў дыхтоўны дом, гаспадарку ад бацькоў. Лявон вярнуўся жыць у хату даўно памерлай бабулі.

Генадзь, яго напарнік, быў дагледжаны: у новай сіняй ватоўцы і чыстых портках. На нагах — валёнкі ў глыбокіх літых галёшах. Генадзь адразу ажаніўся добра — з перасяленкай, няхай развядзёнкай, але даволі ўвішнай жанчынай. І сам быў кемлівым па жыцці, з нічога мог зрабіць грошы: гнаў самагонку, дапамагаў і рыбакам, і леснікам. Штодня іх хата ператваралася не толькі ў падпольную краму, а і ў гэткі камерцыйны штаб. Пакупнікоў на самагонку і тых, хто меў патрэбу ў дровах, заўсёды хапала. Ішлі вяскоўцы, нават з суседніх вёсак...

— Ну што, хлопцы, грузіце мяшкі, — павітаўшыся, сказаў Васіль. — Транспарцёр сказалі не ўключаць.

Лявон нагнуўся, ухапіўся за рог мяшка.

— Бяры! — прасіпеў Генадзю. Той схапіў мех за ніжнія рагі — панеслі да машыны. Грузілі наўздзіў таропка.

— Хто паедзе са мной? — спытаў Васіль, калі мужчыны, укінуўшы ў кузаў апошні мех, абтрасаліся ад белага мліва.

— Ты едзь, — сказаў Генадзь Лявону. — У мяне і тут спраў хапае. А ты ў новай машыне хоць сагрэешся.

— Глядзі, які клапатлівы стаў! — з лёгкім прыжмурам адгукнуўся той.

Расчышчаная ад сумётаў дарога да «Бама» бегла праз вёску, схілам ля стаўка, зноў угору да перакрыжавання на райцэнтр.

— Слухай, Васіль, — схамянуўся Лявон перад паваротам, — давай завернем да аднае добрай бабы... сёе-тое ўзяць... Здзелай добрае дзела, усяго пару хвілін...

— А да каго?

— Ат, трэба тут... Справа, брат...

— Дык да каго? — не адставаў Васіль.

— Ну, ну... Ну, да Юз-зэфы...

Лявон як гаварыў, то абавязкова заікаўся, махаў рукамі: тлумачыў не толькі словам. Але яго жэсты не выклікалі ў Васіля даверу.

«Якое гэта “дзела”? Сакрэтчык...» — насцярожыўся Васіль.

Хата Юзэфы абкладзена белай цэглай. Да пафарбаваных у карычневы колер металічных варот было не падступіцца.

Васіль спыніў машыну якраз насупраць. Лявон хуценька выслізнуў з кабіны і ў адно імгненне ўскочыў у кузаў. Схапіў мех, зіркнуў навокал, апусціў на гурбу снегу ля задніх колаў машыны. Вокамгненна выскачыў у пульхны снег, схапіў мех, панёс.

— Эй, ты што робіш? — крыкнуў Васіль. Лявон галавы не павярнуў. — У цябе сумленне хоць крыху засталося?

— Усё парасцягалі калгаснае, а мне і мяшэчка нельга ўзяць, — толькі і буркнуў Лявон.

— Ці ты паўгловак апошні, ці ты... Адзін — вядзерца, другі — мяшэчак, а цяляты будуць салому пустую жаваць? Так мы заўжды галадранцамі будзем.

— Ды хопіць усім... Думаеш, табе Алянцей бярвення ці дошак за гэта дасць? А можа, і дом новы ўзвядзе як перадавіку?..

— Не твая сабачая справа! Пакладзі, кажу!

— Спадзявайся! Ага, з новага бярвення, якое свежай жывіцаю пахне...

— Пакладзі на месца! А тое я за сябе не ручаюся!

— А хто ты такі?.. Хто ты такі? Дурань ты! — залапатаў Лявон. — Ты звычайны шафёр! Прывёз, адвёз і ўсё. А гэта, — кіўнуў на мех мукі на снезе, — не тваё сабачае дзела!..

З веснічак вышла чарнявая Юзэфа. Лявон ураз апынуўся ля яе. Чорныя жвавыя вочы, што толькі што ўсміхаліся аднаму, нядобразычліва і нават пагрозліва-спудліва касіліся на Васіля.

«Чакала і муку, і гэтага бэйбуса?»

— Ну што ты, хлопец, крычыш? — зірнуўшы на мяшок, міралюбіва загаварыла Юзэфа. — Ну прывёз чалавек мукі — ён мне должан...

— Вось хай сваё і аддаець!..

— Табе дзялоў?..

— Дзялоў не дзялоў, а мяшок не дам...

Васіль схапіў мех, у якім было кілаграмаў трыццаць мукі, падняў на борт, перакуліў у кузаў.

— Во які ты чалавек, і не камуніст, і не дэмакрат. Чужога табе шкода, — папікала Юзэфа.

Васіль хацеў адказаць, ды раптам захваляваўся, у горле як перакрыла. Ускочыў у кабіну, завёў рухавік.

— Сядай, калі хочаш, зладзюга! — крыкнуў Лявону. — А не хочаш... Яму б толькі магарыч, ды... Дарваўся б... П'янаму і козы ў золаце...

— Вот паскуда, — данеслася ў прачыненую фортку. — Гэта ж нада, які чалавек...

— Няўжо табе ў магазіне не абрыдла красці? — абазваўся Васіль. — Дзе б тольcкі не прайшлася, абавязкова ўкрадзеш, — крыкнуў і ляпнуў дзверцамі.

Лявон спужаўся, што Васіль заявіць у міліцыю, паслухаўся, нехаця ўлез у кабіну. Глядзеў на дарогу, сядзеў, адвярнуўшыся да акна. Смактаў недакурак, што дастаў з-за вынашанай аблавушкі. Свайго паражэння ў «камерцыйнай» аперацыі прызнаваць не хацеў — сядзеў надзьмуўшыся, як верабей. Абціраючы з бурых, друзлых шчок кропелькі расталага снегу, маўчаў у злосці.

«Гэты стрэлачнік... Тут цэлая хеўра... — не выходзіў з галавы выпадак з мукою, і тая спрэчка, і прыкрая абраза за яго ўчынак. — Мусіць, пасля таго выпадку Юзэфа гэты пляц не аддасць... Падавіцца, а не аддасць... Няхай сабе, затое мне цяпер лёгка на душы...»

Ціша навокал. Нячутна нырае ў празрыстыя аблокі маладзік, чапляючы на свае маладыя рожкі абрыўкі залацістасіняга вэлюму. Роўна пасопваюць дзеці з жонкаю. Як вясенні ручаёк праз талы снег, праз думкі-сумёты прабіваўся светлы сон гаспадара. Ён і ў сне думае сваю гаспадарскую думу. Быццам ён, Васіль, з талакою калгасных будаўнікоў складваюць новы дом са свежых бёрнаў. А тыя бёрны тоўстыя і роўныя-роўныя, як страла... Стук-стук...Стук-стук... І Ніна разам з дзецьмі адносяць трэскі пад паветку, нібы падахвочваючы Васіля. «Хутчэй будуйце! Хутчэй...»

Бадай, першы раз за апошні час Васіль сніў вялікую прасторную хату, дзе пахла свежай жывіцай, і разносіўся дзіцячы смех, і пасміхаліся вільготныя жончыны вочы.

— Васіль, уставай! Табе дваццаць кубоў дзелавой драўніны выдзелілі! — данёсся старшынёўскі голас.

# БЛІСКУЧАЯ, КРАНАЛЬНАЯ, КАМІЧНАЯ...

**Якой яшчэ была паэзія жанчын, што жылі, кахалі, змагаліся за свае правы і гадавалі дзяцей у няпростыя гады міжваеннага часу? На гэтае пытанне як ніколі поўна можа адказаць анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы». Укладальнікі яе, Віктар Жыбуль і Аксана Данільчык, распавялі шмат цікавага падчас прэзентацыі выдання ў музеі Максіма Багдановіча.**

## ДЗЯКУЙ ДАНТЭ

Ладзілася імпрэза 9 сакавіка, у поствяточны вясновы дзень. Такі выбар — свядомы. Віктар Жыбуль падкрэсліў, што і ў тыя часы «свята жаночай эмансіпацыі» значыла вельмі многа для яго гераінь, аднак афарбоўку несла іншую — больш палітызаваную, з падкрэсленай грамадзянскай пазіцыяй. У чым запэўніцца можна, у тым ліку, і дзякуючы «Бліскавіцам».

Стварэнне кнігі ішло няпроста. Яшчэ ў 2011 годзе быў задуманы праект і створаны першы каркас-змест анталогіі. Пасля таго было прапрацавана ды адкінута каля 20 чарнавікоў. Праца ішла з вялікімі перапынкамі (укладальнікі займаюцца, як вядома, актыўнай навуковай работай, а гэтаксама ўласнымі творчымі праектамі). Урэшце, для Віктара і Аксаны прагучала добрая навіна: праект падтрымалі.

Што цікава, распачала гэты праект якраз спадарыня Аксана. І дапамог у гэтым… Дантэ. Ад яго асобы даследчыца перайшла да Язэпа Пушчы (матывы Дантэ ў яго паэзіі), Пушча стаў «сцяжынай» на «Узвышаўскія чытанні», і ўжо там акрэслілася новая мэта, якая спраўдзілася ў выглядзе анталогіі «Бліскавіцы».

Многія аўтаркі, што друкаваліся ў 1918 — 1941 гадах, аказаліся незнаёмыя даследчыцы. Па дапамогу яна звярнулася да Віктара Жыбуля. І работа гэтая зацягнула яго таксама.

## ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ «МАЛАДНЯКА»

У святочнай імпрэзе бралі ўдзел, акрамя ўласна ўкладальнікаў, творцы ды культурныя дзеячы, якія маюць да кнігі самае непасрэднае дачыненне. Прычым прадстаўляюць вельмі розныя бакі тае самае дзейнасці, па-рознаму ацэньваюць значэнне кнігі.

Прыкладам, Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, гэтаксама займалася пошукам звестак пра аўтарак ды іх тэкстаў, якія сталі незаменнымі для анталогіі. Так, цяпер вядома, што першай жонкай Кузьмы Чорнага была Іда Чырвань. Але хто ведаў, што яна гэтаксама пісала? Паэтка Іда Чырвань мала каму вядомая. Ускладнялася ўсё тым, што вершаў яе нашыя архівы не маюць. Ганна Запартыка выправілася за імі ў Санкт-Пецярбург, адкуль прывезла копіі газет з публікацыямі паэткі.

*Закахалася бурай, грымотай,*
*што бліскоча і б'е перуном.*
*Закахалася сонцам, асокай,*
*працай вольнай, яе песняром…*

Яна ж здабыла для літсвету Беларусі здымак Іды Чырвань (яго перадала спадарыні Ганне ўдава Бабарэкі). Акрамя таго, вядома ж, укладальнікі анталогіі актыўна карысталіся фондамі БДАМЛіМ і яго бібліятэкай рэдкіх выданняў.

Дырэктар музея зазначыла, што ўрэшце фонды «Маладняка» пайшлі ў працу. Зразумела, да іх звярталіся многія даследчыкі, але заўжды датычна адных і тых жа асобаў беларускай літаратуры. Цяпер жа ўвага скацэнтраваная на невядомых рукапісах, імёнах, публікацыях. Так, не ўсе яны прыклад высокага мастацтва, але ўсе без выключэння — сведчанні часу, каштоўныя знаходкі для гісторыкаў, сацыёлагаў, даследчыкаў гендарных пытанняў, а ўжо тым больш — для літаратуразнаўцаў ды літжурналістаў. Словам, скарбонка без дна. Была б ахвота чэрпаць.




## КОЖНАМУ — СВАЁ

Калі для дырэктара архіва-музея «Бліскавіцы» — сведчанне актыўнай працы, новы ракурс датычна фондаў, то для кожнага з іншых выступоўцаў анталогія мае сваё непаўторнае гучанне.

Так, крытык і перакладчыца Ганна Янкута падчас прэзентацыі зрабіла экскурс у гісторыю т.зв. «жаночага пісьма». Ужо тое, што для літаратуры, напісанай жанчынамі, існуе нейкае асобнае азначэнне, указвае на няпросты лёс гэтай самай жаночай літаратуры. Дыскрымінацыя? Не тое слова. Доўгі час любы твор пісьменніцы ўспрымаўся як такая сабе забаўка, мілае хуліганства. Крытыкі не ставіліся ўсур'ёз да іх твораў, так што многія выбітныя аўтаркі з сусветным на сёння імем вымушаны былі браць мужчынскі псеўданім (Джордж Эліят, прыкладам). Але жанчыны адвавалі права казаць, гучаць, прамаўляць.


Укладальніца анталогіі Аксана Данільчык.

Тое ж тычыцца аўтарак «Бліскавіцаў». Усе яны — кожная пасвойму — бачылі свой час: трагічны і смешны, час спадзяванняў і стратаў, час міру, які аказаўся зацішшам перад страўнай навалай. Бачанне гэтае ўвасобілася ў тэксты, ад калгасных прыпевак да вершаў, якія дасягаюць вяршыняў харства і гармоніі. Так, Ганна Янкута падкрэсліла ролю анталогіі датычна гендарнага пытання.

Для Юліі Цімафеевай, перакладчыцы і паэткі, «Бліскавіцы» — нешта кшталту тастаменту, магчымасці пазнаёміцца з жанчынамі-аўтаркамі, што былі да цябе. «Мне як паэтцы важна ведаць, хто быў перада мной, — кажа спадарыня Юлія. — Мы, паэткі, не спрачаемся з нашымі папярэдніцамі, не абвяргаем іх. Мы з удзячнасцю чытаем. Узнаўляем для сябе сваю ж гісторыю. Гэта не проста тэкст — гэта кантэкст. Іхняя смеласць і адкрытасць, энергічнасць жаночага пісьма таго часу — усё гэта мне вельмі імпануе». Глыбока асабістае значэнне мае анталогія для сучасных жанчын-творцаў. Гэта і пераемнасць, і творчае супрацоўніцтва, і патаемная размова на дваіх.

Датычна «Бліскавіцаў» можна згадаць вядомы беларускі рэкламны слоган: «Традыцыі могуць быць сучаснымі». У лёгкай тран-сфармацыі гэта пацвярджваецца песнямі на словы аўтарак той эпохі, перадусім — Ларысы Геніюш. Талент музыкі Міхала Бараноўскага і яго пранікнёны голас адкрылі ў творах новую глыбіню, якая, пэўна ж, не проста сучасная — яна вечная.

## 61 ГОЛАС

Менавіта столькі аўтарак прагучалі ў бліскавічнай анталогіі. Адныя з іх з'яўляліся і тут жа згасалі (сапраўды, бліскавіца). Іншыя — вядомыя сёння хрэстаматыйныя аўтаркі: Канстанцыя Буйло, Ларыса Геніюш, Эдзі Агняцвет, Зоська Верас… Гэтаксама розныя творы па мастацкім узроўні: адныя — класічная паэзія, іншыя — аднадзёнкі, рыфмаванкі на патрэбу дня, агіткі. Тэмы — самыя розныя, што само па сабе разбурае абрыдлы стэрэатып пра абмежаванае кола жаночых інтарэсаў. Тут і інтымныя перажыванні, і пейзажная лірыка, і грамадзянская паэзія, і вечныя філасофскія пытанні.

Асобныя аўтаркі пісалі пад псеўданімамі: Хмарка, Эстэр Зялёнка, Зося Думка, Зося Палын, Работніца Клімава, Раса, Вера Былінка, Сястра, Сястра Тарэса, Тацянка. Не ўсе псеўданімы расшыфраваныя. Літаратуразнаўцаў чакае багата працы.

Анталогія «Бліскавіцы» ўпершыню раскрывае творчы свет згаданай ужо Іды Чырвань. Яшчэ адна «жонка класіка», Тодара Кляшторнага, аказваецца паэткай. Гэта Яніна Германовіч. Анталогія змяшчае ўсяго адзін яе верш — больш тэкстаў пакуль не знойдзена.

*Надзеі, мілыя надзеі!*
*Надзеі, сэрца летуценні…*
*Я вас у сэрцы вечна грэю;*
*Не дружны з вамі чорны цені…*

Радкі, напісаныя ў 1929 годзе, асабліва драматычна гучаць, калі ведаць, што ў 1937-м Яніна Германовіч была арыштаваная як «жонка здрадніка радзімы». Канчаткова вызваленая з ссылкі яна была толькі ў 1955 годзе.

Ахвярай такога вось гендарнага раўнапраўя, якое рэпрэсіі падтрымлівалі ахвотна, сталася Валянціна Казлоўская. Яна была расстраляная. Засталіся малыя дзеці.

Эдзі Агняцвет вядомая найперш як дзіцячая аўтарка. Вершы, уключаныя ў анталогію, парушаюць гэты правільны вобраз.

*О, гэта сіла, вецер, сіла злая,*
*яна ірве у іншы край твой вольны дух!..*
*У краі ж тым народ з нядолі памірае,*
*ім незнаёмы светлы вольны рух!..*

(«Вецер», 1929 год)

Грамадзянская паэзія гучыць найперш у «Бліскавіцах». Прычым рэдка калі гэта прамытыўныя заклікі «гэй, да сонца, гэй, да зор». Тонкае пачуванне свету дазваляла жанчынам-паэткам зірнуць глыбей, убачыць у змаганні нешта большае за адзін палітычны дзень краіны. Часта такія матывы шыфраваліся ў пейзажным малюнку: вось зіма, ноч, але хутка вясна, ужо чуецца яе лёгкі і трыумфальны поступ… Прыкладам, у Ганны Душэўскай чытаем:

*Не бойся, што хмараю цёмнай*
*Так доўга вішу над зямлёй,*
*Што ў лесе хваёвым так сумна,*
*Як ў долі гаротнай тваёй.*
*Не вечна ж і цемрай, і жахам*
*Я буду цябе абнімаць;*
*Не вечна і сцюжай, і страхам*
*Я буду зямлю спавіваць…*

(«Ноч», 1920 год)

А далей — «прыйдзе вясна-чараўніца», «адклікнецца голасна бор», і зазззяюць зоры і мары. Зрэшты, прачытанні тэкстаў могуць быць і іншыя — на тое яна й літаратура.

Цікава: у анталогію ўвайшлі вершы той самай Паўліны Мядзёлкі. Гэта «Песня змагання» 1921 года, прысвечаная Тамашу Грыбу:

*Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,*
*пры зборы ўсіх нас тут, ў бяседзе такой,*
*успомнім мы, брацця, аб долі няроўнай —*
*усіх тых, што церпяць за край*
*родны свой.*

Таксама — цікавы твор «У выгнанні»: класічны вершаваны радок перамежваецца з рытмізаванай прозай. Напісаны тэкст у Берліне. Што наракае здагадку: акторка натхнілася еўрапейскай літаратурнай мадэрнізацыяй. Заўважнае, між іншым, падражанне Купалу — асабліва што датычыць паэмы «Сялянская доля».

Акрамя ўласна тэкстаў, анталогія змяшчае кароткія біяграфіі і здымкі аўтарак.

Віктар Жыбуль у пасляслоўі зазначае, што 61 аўтарка — гэта не такая й вялікая лічба. «Мы пастараліся максімальна ўключыць у анталогію творы амаль усіх паэтак-жанчын, якіх удалося выявіць у тагачасным друку, дакладней — у выданнях, што былі ў нашым распараджэнні». Так, у анталогію не ўвайшлі творы Марыі Барсток, Алены Нячай і Вікторыі Доўгай, бо ўкладальнікі не мелі доступу да часопісаў з публікацыямі гэтых аўтарак. З прадстаўніц «масавай паэзіі» таксама ў анталогію ўключаныя не ўсе — толькі самыя «паказальныя» аўтаркі, тыповыя.

Так што можна спадзявацца: праз колькі гадоў з'явіцца перавыданне анталогіі, пашыранае, з адказамі на шматлікія неразгаданыя пытанні.


Укладальнік «Бліскавіцаў» Віктар Жыбуль.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**

# Настальгіраваць з «ЛіМам»

## прапанавала Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага

Экспазіцыя нумароў газеты «Літаратура і мастацтва» ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага — як машына часу: толькі разгарні зжаўцелыя старонкі факсімільнага выдання першага нумара «ЛіМа» — і ты ў 1932 годзе. Газетная даўніна патыхае веліччу, настоенасцю. Рарытэты архіва стракацяць гучнымі лозунгамі. «Праверыць пяро і вінтоўку», — заклікае загаловак 1-га нумара, які выйшаў 85 гадоў таму. «Сёння мы павінны цвёрда і канчаткова сказаць сабе, што наша зброя — мастацкае слова — павінна біць у цэль, павінна быць вострай, як штык, і меткай, як кулі чырвонаармейцаў», — гучыць на першай старонцы пад аўтарствам Барыса Мікуліча. Творчы шлях у 85 гадоў — трывалая лесвіца сталення, узыходзячы па якой раскрываліся таленты, шліфавалася майстэрства… Прайсціся па прыступках лімаўскай лесвіцы, прасачыць развіццё аднаго з найстарэйшых выданняў краіны, прапанавала Брэсцкая абласная бібліятэка імя Горкага, арганізаваўшы да юбілею «ЛіМа» ў рубрыцы «Падзея года» выстаўку «Газеце "Літаратура і мастацтва" 85 гадоў».

Экспазіцыя да 85-гадовага юбілею газеты «Літаратура і мастацтва» ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага.

*Фота Вікторыі Кавальчук.*

Першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва» (26 лютага 1932 г.).

*Фота Наталі Святловай.*

Пашанотны спадарожнік творчасці, люстэрка эпохі, «ЛіМ» паўстаў у экспазіцыі квяцістa і па-святочнаму. Колькі ж юбілейных нумароў назбіралася: 60, 65, 75!.. Цягам доўгага творчага шляху, асвятляючы літаратурнае, культурнае, грамадска-палітычнае жыццё краіны, з самага пачатку курс быў на захаванне нацыянальнай культурнай спадчыны, развіццё народнай творчасці.

Загалоўкі публікацый першага нумара даюць магчымасць уявіць зместавую накіраванасць тагачаснага культурнага жыцця. Акрамя агульнага палітычнага настрою, насычаная палітра тэм: артыкул Ал. Салагуба «Літаратурны фронт Заходняй Беларусі», Ал. Кучара «Пра п'есу Андрэя Александровіча "Напор"», вершаваны твор «Прафэсар і стэнографістка» (новыя раздзелы з «Ценяў на сонцы») Андрэя Александровіча, матэрыялы па пытаннях тэатра: «Над чым працуе БДТ-1», «Хроніка БДТ-2», «Перамога Бел. Дзярж. Яўр. тэатру (паказ "Штурм")», артыкул В. Вольскага «5 год Беларускага Другога Дзяржаўнага Тэатру», «Хроніка выяўленчага мастацтва», урывак з п'есы Ільі Гурскага «Новы горад». Іншыя нумары газеты раскрываюць тэмы выяўленчага мастацтва, музыкі і кіно, архітэктуры, самадзейнай творчасці.

Сярод аўтараў «ЛіМа» 1940-х гадоў — М. Волгіна, Ю. Равіч, Е. Ігараў, Б. Смольскі, І. Рубінштэйн («Партыйная арганізацыя мастакоў перад справаздачна-выбарчым сходам»), Г. Бярозкін, Н. Сурначоў. Публікаваліся вершы Міхася Сліві, Пятра Глебкі. Друкаваліся мастацкія творы: урыўкі з паэм, апавесцей, раманаў, п'ес, вершы, апавяданні, прэзентаваліся новыя творы сучасных аўтараў. Пісалі: «Аб канцэртах філармоніі», «Аб перакладах п'ес», «Творчыя вечары кампазітараў», «Больш увагі абароннай літаратуры».

Аналізуючы нумары-ветэраны, можна прасачыць, якія праблемы і на якім узроўні вырашалі пісьменнікі і мастакі ў розныя гады. Дарэчы, у «ЛіМе» ўпершыню апублікаваны многія творы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, І. Мележа, В. Быкава, П. Панчанкі, І. Шамякіна, Я. Брыля, А. Макаёнка, І. Чыгрынава, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Б. Сачанкі, І. Пташнікава, Я. Сіпакова ды іншых класікаў.

— «ЛіМ» выпісваем з 1946 года, за гэты перыяд і прадставілі нумары розных гадоў, у факсімільным выглядзе — першы нумар, — каментуе бібліятэкар чытальнай залы бягучых перыядычных выданняў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Людміла Смялова. — Задача выстаўкі — паказаць, што друкавалася за розныя гады, каб чытачам было цікава. І прывабіць атрымалася: разгортвалі старыя нумары, праглядалі артыкулы. Пенсіянеры, да прыкладу, памятаюць савецкі перыяд, а тым, хто маладзейшы, цікава было паназіраць савецкую прапаганду і параўнаць з тым, што друкуюць зараз.

— Сённяшні «ЛіМ», нумары якога таксама экспанаваліся на выстаўцы, верны традыцыі і зберагае лепшае, што напрацавана ў мінулым, і ў той жа час шукае падыходы ў прафесійным і творчым жыцці, — адзначае Любоў Трубіцына, загадчык чытальнай залы бягучых перыядычных выданняў. — Менавіта гэтым газета прываблівае нашых чытачоў: студэнтаў, настаўнікаў, школьнікаў, бібліятэкараў і ўсіх, хто цікавіцца літаратурай і культурным жыццём Беларусі. За люты, падчас экспанавання выстаўкі, зафіксавана больш як 1000 наведванняў, у тым ліку ў складзе экскурсій.

Чытальная зала бягучых перыядычных выданняў — актыўнае падраздзяленне Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага (адкрыта 4 студзеня 1940 г.). На 1 студзеня 2017 года агульны фонд бібліятэкі склаў 883 525 экз. дакументаў, адпаведна фонд перыядычных выданняў — 196 224 экз. часопісаў і газет. Усяго ў 2016 годзе бібліятэка атрымала 66 назваў газет і 453 назвы часопісаў.

Каб раскрыць багацце свету перыёдыкі, аддзел вядзе выставачную работу. Ці не гэта прыцягвае ў чытальныя залы? Бо агульнавядома, што зараз усё больш актывізуюцца аддаленыя карыстальнікі… Многія лічаць за лепшае адсочваць інфармацыю на пастаянна ўзнаўляемых сайтах, анлайн, чым гартаць выданні ў друкаваным выглядзе. Традыцыйная прэса прыйшла ў інтэрнэт у сярэдзіне 90-х гадоў XX ст.

Інфармацыя стала даступнай, можна пачытаць электронную версію газеты дома. Ці не губляе бібліятэка запатрабаванасць у чытанні перыёдыкі, увогуле ў чытанні? Бібліятэкар Людміла Смялова распавядае: «Калі я прапанавала адной нашай чытачцы хуценька знайсці адказ на яе пытанне па інтэрнэце і раздрукаваць, яна запярэчыла: "Не, не трэба, я лепш пагартаю газеты і перапішу ў сшытак". Інтэрнэтам карыстаешся, калі патрэбна інфармацыя хутка, студэнтам, напрыклад. А тыя, хто не спяшаюцца, хто жадае разважлівага чытання, асэнсавання інфармацыі, выбіраюць газету. Пагартаць — і ўзважыць, пафіласофстваваць». Нягледзячы на тое, што некаторыя даследчыкі канстатуюць скарачэнне прасторы кніжнай камунікацыі, высокі статус кнігі захоўваецца. Лічыцца, што інтэрнэт садзейнічае ўзмацненню аўтарытэту традыцыйнай бібліятэкі, асабліва калі яна ўключана ў інтэрнэт-прастору.

Новыя інфармацыйныя тэхналогіі даюць магчымасць павялічыць аб'ёмы інфармацыі, паскараюць пошук — знікаюць праблемы захоўвання інфармацыі і абслугоўвання. Сціраюцца часавыя і прасторавыя бар'еры. Калі раней бібліятэкар мог лічыць сябе асветнікам, то сёння ён, атрымліваецца, больш навігатар інфармацыі, пасрэднік паміж карыстальнікам і інфармацыйным рэсурсам?

У далёкім мінулым бібліятэкай карыстаўся чытач, які праглядаў кнігі з фонду ў памяшканні бібліятэкі. Потым кнігі пачалі выдаваць на дом па абанеменце. У XIX стагоддзі чытача, які браў кнігі на дом, называлі падпісчыкам. Наведваў бібліятэку падпісчык радзей, чым карыстальнік чытальні (чытальнай залы). Сёння з'явіліся віртуальныя карыстальнікі, здавалася б, якія могуць выцесніць рэальных наведвальнікаў. Але ўсё ж у бібліятэку ідуць. Што ж вабіць чытаць «наяве»? Што цягне ў бібліятэку? Атмасфера, зносіны, бібліятэчнае асяроддзе. Адна справа — атрымаць да электроннай газеты доступ, а іншая — разгарнуць яе ў чытальнай зале, абмеркаваць — больш паўнацэнны працэс. Атмасфера, якая садзейнічае чытанню як духоўнаму акту, паглыбленню ў працэс мыслення, — у гэтым перавага рэальнага чытання над электронным. Электроннае чытанне — імгненнае атрыманне інфармацыі, часам без смакавання. А рэальнае чытанне — нетаропкасць, удумлівасць, рэфлексаванне. Адпаведна, бібліятэкі — месца адпачынку, вольнага часу, задавальнення эстэтычных патрэб, вось чаму актуальныя сёння выстаўкі.

На жаль, ва ўмовах новых інфармацыйных тэхналагій зносіны ўсё больш залежныя ад тэхнічных прылад. Камунікацыя становіцца спецыфічнай — чалавека-машыннай. Можа, якраз экспазіцыі, выстаўкі, жывое чытанне ў залах выправяць гэту праблему. Навідавоку тэхнізацыя бібліятэчнай прафесіі. Бібліятэчная дзейнасць ускладняецца, становіцца шматграннай. Але пры любых інавацыях і зменненнях нязменнай застаецца цяга да жывога слова, што грэе, што захоўваюць клапатліва арганізаваныя экспазіцыі. Прыйсці, разгарнуць газету «Літаратура і мастацтва», адчуць непаўторную эстэтыку…

**Наталля СВЯТЛОВА**

# ПАДАРУНАК ДЛЯ ПАЭТА

Астравецкая раённая бібліятэка ладзіла творчую сустрэчу «Радзімы позірк мілы» з земляком, сябрам пісьменнікаў Беларусі, грамадскім дзеячам, членам Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Станіславам Валодзькам. Вершы творцы выклікаюць замілаванасць, любоў да роднай зямлі, прыроды, вучаць дзяцей дабру і прыгажосці.

Актавая зала Астравецкай дзіцячай школы мастацтваў, дзе прайшла імпрэза, сабрала прыхільнікаў творчасці знакамітага земляка. Станіслаў Віктаравіч 60 гадоў назад нарадзіўся у вёсцы Падольцы, але лёс закінуў яго ў горад Даўгаўпілс (Латвія).

Вершы Станіслаў Валодзька пачаў пісаць са школьнага ўзросту. Цяпер у яго ўжо шэраг выданняў, сярод якіх значная колькасць дзіцячых. Многія яго творы пакладзены на музыку. У прыватнасці, астравецкі кампазітар А. Якіменка напісаў музыку на такія вершы паэта, як «Міхалішскі касцёл», «Дачка лясніка», «Памяці Казіміра Сваяка» і інш. Усе яны і прагучалі падчас імпрэзы.

Падтрымаць Станіслава Віктаравіча прыехалі яго калегі па грамадскай дзейнасці беларускага культурна-асветніцкага таварыства «Уздым», якія таксама прачыталі вершы аўтара, праспявалі яго песні.

Шаноўным госцем мерапрыемства стаў вядомы беларускі паэт, празаік і крытык, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Міхаіл Паўлавіч уручыў Станіславу Валодзьку медаль Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру» і прачытаў для аўдыторыі ўласныя вершы.

Выдатны падарунак зрабілі і маленькія чытачы Астравецкай дзіцячай бібліятэкі: падрыхтавалі інсцэніроўку па казцы С. Валодзькі «Дачка лясніка».

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ,**
**метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Астравецкай раённай бібліятэкі**

# Хто ўзыходзіць на «Алімп»?

Літаратурна-музычная гасціная «Алімп», створаная пры Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэцы, вось ужо 34 гады яднае аматараў паэтычнага слова і мелодыі. Ідэя стварыць гасціную ўзнікла ў 1983 годзе. З тых пор усе ахвотныя могуць паўдзельнічаць у тэатралізаваных вечарынах, творчых сустрэчах, літаратурна-музычных імпрэзах.

Нядаўна для прыхільнікаў старажытнага раманса зладзілі літаратурна-музычную вечарыну «Рамансa трапяткія гукі». Далучыліся навучэнцы і выкладчыкі Слуцкай дзіцячай школы мастацтваў. Настасся Лабанок і Таццяна Кулікова адмыслова выканалі на віяланчэлі «Натхненне» Мікалая Ракава. Марыя Лебедзь падарыла слухачам цудоўную песню «Шапэн». У выкананні Л. Капцэвіч (скрыпка) і А. Шувалавай (фартэпіяна) прагучаў «Накцюрн». Яўген Сакольскі, рэжысёр гарадскога Дома культуры, пад гітару выканаў рамансы «Дарэмныя словы» і «Каханне і расстанне».

Гучалі таксама творы са знакамітага «сузор'я» рамансаў: «Гары, гары, мая зорка…», «Я сустрэў Вас», «Раніца туманная» ды інш. Запамінальнай атрымалася літаратурна-музычная інсцэніроўка па вершах і рамансах паэтаў XIX стагоддзя «Калі каханне захапіць нас…». У вобразе закаханай пары паўсталі перад гледачамі бібліятэкар дзіцячай бібліятэкі Наталля Уласевіч і Яўген Сакольскі.

Завітаюць у «Алімп» і пісьменнікі. Нядаўна зладзілі творчую сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі Ганадам Чарказянам і Казімірам Камейшам. Падчас сустэчы разважалі пра тое, што хвалюе сучаснага чытача: літаратура, пісьменніцкі талент, сакрэты творчасці. Напісаць кнігу — цяжкая, адказная, сумленная праца. Пісьменнік, інтэрпрэтуючы жывую энергію слова, натхняючыся ёю, усю гаму сваіх пачуццяў, хваляванняў адлюстроўвае ў творы. У гасцей «Алімпа» была магчымасць задаць творцам пытанні. Завяршылася імпрэза аўтограф-сесіяй.

**Валянціна ЦАГАЛКО, загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэкі**

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ САКАВІКА: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

## Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь


Ю. Піскун. Сцэнічныя касцюмы ансамбля «Песняры».

**1** **Што?** У творчым праекце «Уладзімір Мулявін. Спадчына вялікага маэстра», арганізаваным Нацыянальным гістарычным музеем, Музеем Уладзіміра Мулявіна Беларускай дзяржаўнай філармоніі і Беларускім дзяржаўным ансамблем «Песняры», прадстаўлены касцюмы і эскізы сцэнічных касцюмаў Галіны Крываблоцкай і Валянціны Бартлавай з розных перыядаў існавання аднаго з найвядомейшых беларускіх асамбляў. Тут прадстаўлены шляхецкі, беларускі народны і афіцыйны касцюм з васільком. Асобнае месца займаюць джынсавы ўбор Уладзіміра Мулявіна і шэсць малюнкаў касцюмаў для канцэртаў у Амерыцы.

**Дзеля чаго?** Ансамбль «Песняры» — культавы для беларускай культуры. Гэты праект нагадвае пра лепшыя часы для калектыву і дае магчымасць бліжэй пазнаёміцца з творчасцю Уладзіміра Мулявіна — выдатнага музыканта, кампазітара, заснавальніка і мастацкага кіраўніка беларускага вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры». Экспазіцыя ўяўляе своеасаблівую рэтраспектыву працэсу працы над сцэнічнымі касцюмамі легендарнага ансамбля, дазваляючы прасачыць шлях ад ідэі да рэалізацыі.

**Чаму ісці?** На выстаўцы гледачы змогуць апынуцца ў той самай творчай атмасферы, якую шмат якія ўдзельнікі ансамбля «Песняры» дагэтуль памятаюць і шануюць. Разнастайныя касцюмы, партрэты, нотныя сшыткі — тыя складнікі жыцця, якія даюць уяўленне пра пэўны адрэзак гісторыі. Як адзначаюць арганізатары, гэты праект дапаможа публіцы адкрыць яшчэ адну старонку існавання легендарнага калектыву.

## Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў

*(пр. Незалежнасці, 47)*

**2** **Што?** Спецыяльна да вясны вядомая беларуская мастачка Ганна Сілівончык падрыхтавала цёплы і забаўляльны арт-праект «Песцікі ды тычынкі», дзе раскрываецца тэма адносін людзей у самы натхняльны перыяд жыцця.

**Дзеля чаго?** Мужчынскае і жаночае мастачка аб'ядноўвае ў адно цэлае і атрымлівае сінтэз пачуццяў. У прадстаўленым праекце мы адчуваем, што праз усе творы пралягае нітка кахання, прыцягнення і нават эратызму. Аўтар даволі смела ў адным творы можа сумяшчаць адкрытыя сюжэты з духоўнымі складнікамі. Яна абсалютна шчыра дзеліцца з гледачом уласнымі эмоцыямі: кожны твор — жыццёвы досвед. Ёсць у мастачкі правіла: раскрыць свайго героя знутры, каб у гледача фарміравалася цікавасць не толькі да вонкавых з'яў.


«Тэатр Ядвігі. Л.».

**Чаму ісці?** Творы Ганны Сілівончык мастацтвазнаўцы называюць святочнымі. І сапраўды, яе карціны здольныя ўзняць настрой, зацікавіць тэматыкай, колеравым рашэннем. А яе іронія, лёгкая і ўзрушальная, як сцвярджае сама аўтарка, раскрывае пачуццёвы рамантызм душэўных перажыванняў. Такі праект дазваляе ў поўнай меры адчуць вясну і яе прыродны водар.

## Мастацкая галерэя «DK»

**3** **Што?** Выстаўка мастака-манументаліста Уладзіміра Кандрусевіча «*RECYCLING*» — вельмі цікавы філасофскі праект, у якім аўтар аб'ядноўвае класічны стыль і сучаснасць.

**Дзеля чаго?** Уладзімір Кандрусевіч разглядае чалавека і прастору. Замест палатна выкарыстоўвае іржавы метал. Піша алеем, але пэндзаль у яго руках з'яўляецца радзей, чым балгарка. Прыёмы аўтапраму выкарыстоўвае ў мастацкіх мэтах. Так, адпрацаваны матэрыял са звалкі становіцца мастацкім творам. Здаецца, метал, па сутнасці, — халодны матэрыял, але мастак імкнецца пераканаць: цяпло — у нашай душы. Калі ствараеш работу з душой, то няважна, што з'яўляецца яе асновай: металічная пласціна альбо папера.


У. Кандрусевіч «Escape».

**Чаму ісці?** У творчасці Уладзіміра Кандрусевіча вы зможаце знайсці адказы на самыя вечныя пытанні. Так, у многіх творах ён разважае над напружанымі ўзаемаадносінамі чалавека з горадам, над стомленасцю людзей ад быту альбо паказвае трансфармацыю грамадства: з вялікай суполкі людзей вылучае асобаў. Гэты праект — працяг папярэдніх творчых эксперыментаў, у якіх раскрываецца тэма суіснавання чалавека і соцыуму.

## Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры»

**4** **Што?** Выстаўка сучасных абразоў «Апакаліпсіс» сфарміравана па выніках Міжнародных майстар-класаў іканапісу ў Навіцы (Польшча), у якіх бралі ўдзел прадстаўнікі дзяржаў, народы якіх некалі ўваходзілі ў Рэч Паспалітую: мастакі з Беларусі, Польшчы, Украіны. Выстаўка ў беларускай сталіцы праходзіць пры падтрымцы Інстытута Польшчы ў Мінску.


Дар'я Каліберда «Адкрыццё Св. Іаана», 1995 г.

**Дзеля чаго?** Калі мастакі стварылі творы ў Навіцы, то звярталіся да тэксту кнігі «Адкрыццё святога Яна» — гэта кніга пра Боскі провід, вядзенне чалавека ці супольнасці вернікаў да дасканаласці і выратавання. Кожны мастак імкнуўся адлюстраваць традыцыі ўсходняга сакральнага жывапісу, шукаў індывідуальную форму выказвання. Сярод работ можна ўбачыць творы, што паўсталі пад уплывам як традыцыйнага, так і народнага абраза, а таксама мадэрновага, абстрактнага, мінімалістычнага мастацтва.

**Чаму ісці?** Майстры спрабавалі дакладна перадаць сэнс кнігі «Адкрыццё святога Іаана» і цяпер маюць патрэбу ў адзнацы. Кожны з аўтараў нясе асабістае пасланне ад Бога гледачу, заклікае памятаць нас пра сваё наканаванне.

## Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў

*(пр. Незалежнасці, 47)*

**5** **Што?** Беларускі фотамастак Валерый Вядрэнка запрашае наведаць яго персанальную выстаўку «Лошыцкі дыяруш», якая з'яўляецца вынікам шматгадовай працы. На фотаздымках аўтара адлюстравана старадаўняя Лошыцкая сядзіба, першае згадванне пра якую датуецца 1557 годам.


«Вясновы суботнік», 2015 г.

**Дзеля чаго?** У аснову канцэпцыі выстаўкі закладзена загадкавая гісторыя апошніх гаспадароў Лошыцы — Яўстафія і Ядзвігі Любанскіх, дзякуючы намаганням якіх сядзіба набыла той выгляд, што застаўся да нашых дзён. У фотаздымках прасочваецца дух шляхецкага рамантызму, дух трагедый гэтай сям'і. Кожны фотаздымак — асобны мастацка-гістарычны твор. Валерый Вядрэнка нібы стварае летапіс розных часоў, дзе былі свае прыкметныя падзеі, героі і легенды.

**Чаму ісці?** Валерый Вядрэнка — цудоўны фотамастак, кожны яго здымак адлюстроўвае гісторыю, праз якую глядач падыходзіць да важных, грунтоўных думак. Аўтар паглыбляе нас у атмасферу паэтычнасці, дэманструе прывабную і гарманічную прыроду, за якой — унутраная трывога. Яго творы будуць цікавы як калегам-прафесіяналам, так і тым, хто ніколі не трымаў у руках фотаапарат.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Пазлы Багаслаўскага

**Акцёр, драматург, рэжысёр — гэта не ўсе таленты знакамітага Дзмітрыя Багаслаўскага, які працуе ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры. Яго спектаклі выклікаюць спрэчкі між вядучымі крытыкамі краін СНД, яго п'есы пастаўленыя ў некалькіх дзясятках гарадоў, яго акцёрскія работы адзначаюць у СМІ. І ўсё роўна можна казаць, што мы зусім не ведаем гэтага дзіўнага чалавека.**



*Дзмітрый Багаслаўскі скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура» ў 2010 годзе. Працуе ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры як акцёр, апошнім часам стварае пастаноўкі як рэжысёр. Адзін з арганізатараў Студыі альтэрнатыўнай драмы.*

*За межамі Беларусі больш вядомы як драматург. Прарыўным для драматурга стаў 2011 год: п'еса «Любоў людзей» трапіла ў шорт-ліст конкурсу «Еўразія», у спіс пераможцаў конкурсу «Любімаўка-2011» і ў шорт-ліст конкурсу «ЛітаДрама». Таксама было першае месца ў конкурсе «Дзеючыя асобы-2011» і прыз глядацкіх сімпатый конкурсу конкурсаў «Новая п'еса» пры расійскай Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска». У 2012 годзе п'есы «Любоў людзей» і «Ціхі шолах сыходзячых крокаў» адзначаны ў шорт-лісце расійскай прэміі «Дэбют». У 2013 годзе імя Багаслаўскага таксама ў шорт-лісце «Конкурсу конкурсаў» «Залатой маскі». Лаўрэат прэміі «Дэбют» у намінацыі «Драматургія» з п'есамі «Знешнія пабочныя» і «Дзеўкі». Спектаклі паводле п'ес Дзмітрыя Багаслаўскага ідуць як у беларускіх тэатрах, так і ў розных краінах блізкага замежжа.*

**— Як у рэжысёрскіх працах («*Dreamworks*», «Саша, вынесі смецце»), так і ў драматургічных («Любоў людзей», «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»), у цябе ёсць тэма іншага свету. Людзі маюць зносіны з прывідамі. Чаму цябе гэта натхняе, магчыма, неяк звязана з тваёй біяграфіяй?**

— Адзін з маіх любімых драматургаў — Морыс Метэрлінк, у яго творах вельмі шмат містыкі, напэўна, адтуль і ногі растуць. Мне здаецца, гэтая тэма першапачаткова глыбокая і невычэрпная. Наўрад ці мы калісьці даведаемся, што хаваецца на тым баку. Фантазіраваць на гэтую тэму цікава, паколькі заўсёды вабіць тое, чаго не ведаеш. Так, я пагаджуся, што любоў да містыкі ёсць, але яна падсвядомая: не магу сказаць, што гэта неяк звязана з біяграфіяй. Прынамсі ў мяне ў жыцці такога не здаралася.

**— Што для цябе цяперашні беларускі тэатр? Які ты яго бачыш і якім хацелася б бачыць?**

— Для мяне цяпер беларускі тэатр вельмі разрознены, і пакуль я не разумею, куды ён хоча ісці, куды ён ідзе і куды яго вядуць людзі, якія стаяць на чале гэтага карабля. Пакуль я не бачу больш-менш ясных канцэпцый, рэпертуарнай палітыкі і канкрэтных рэжысёрскіх поглядаў і перакананняў на жыццё. Вядома, тут ёсць кайданкі ў выглядзе плана, наведвальнасці, прадаванасці і г. д. У Беларусі нам даводзіцца казаць на 99% пра рэпертуарны тэатр, таму што, на жаль, прыватны тэатр і прыватныя ініцыятывы толькі-толькі пачынаюць развівацца. А тыя, якія ёсць, на дадзены момант пераходзяць у разрад танных антрэпрыз. Магчыма, гэта і якасць прадукт, але якасць тут цярпіць ад сутнасці і праблематыкі, якую прапануюць п'есы, рэжысёры, тэатры. Усё ж такі часам ад тэатра хочацца сур'ёзнасці і сумленнай размовы. Гэта справа не аднаго дня, тут павінна быць і праца з гледачом у тым ліку. Таму што людзей, якія ходзяць у тэатр з розумам, вельмі мала. Калі казаць, зноў жа, аб прыватных ініцыятывах, то тых момантаў, якія выклікаюць у мяне цікавасць, зусім няшмат, але, на шчасце, яны ёсць і паволі набіраюць моц, і ўсё гэта звязана з сучаснай п'есай, з п'есай надзённай, з п'есай, якая прапануе іншую мову тэатра. Гэта радуе.

**— Ці лічыш ты, што гледачы лепш успрымаюць пастаноўкі па творах сучаснай драматургіі, чым класіку?**

— Тэатр — гэта ж такая насычаная структура, гэта сінтэз вельмі многіх мастацтваў, таму мы не можам проста сказаць, што сучасная п'еса мацнейшая за класіку ці сучасная п'еса ўздымае пытанні больш глыбокія. І на дадзены момант я не магу сказаць, што сучасная п'еса выклікае велізарную цікавасць гледачоў і ажыятаж. Проста павінна быць і тое, і тое. Мы павінны наш час размяркоўваць так, каб сёння, напрыклад, падумалі над класікай, а заўтра вярнуліся да сучаснасці.

**— Калі мае сябры хадзілі на «Гэта ўсё яна» ў РТБД, а на наступны дзень — на «Дзеці Ванюшына» ў Маладзёжны, яны палічылі, што першае мацней за кошт сучаснасці, надзённых тэм, шматпланавасці...**

— Па сутнасці, «Гэта ўсё яна» і «Дзеці Ванюшына» — блізкія па тэматыцы п'есы. Значыць, у іх адгукаецца так у гэты момант. Значыць, ім бліжэй камп'ютары, сацыяльныя сеткі і г. д. У «Дзецях Ванюшына» ўсё апісана інакш. Мне цікава сучасная п'еса, бо лічу, што гаварыць з гледачом той мовай, якой карыстаецца ён, больш прыемна. Не таму, што гэта адбываецца сёння. Усё роўна ёсць п'есы, якія напісаны не толькі пра сёння, а пра ўчора і пра заўтра. І ў гэтым іх перавага. Не скажу, што ўсіх гледачоў чапляе, калі з імі размаўляюць на сучаснай мове. Ім хочацца прыйсці ў тэатр, прывольна сесці ў крэсле і расслабіцца. Як выдатна хтосьці напісаў у водгуках пра наш спектакль «Сон у летнюю ноч»: маўляў, гэта ж немагчыма 2 гадзіны сядзець у поўнай напрузе! Чалавек думаў, што прыйдзе разнявольвацца, але Шэкспір сінтэзуе ў сабе шмат што: і трагедыю, і драму, і камедыю.

**— У шмат якіх інтэрв'ю ты распавядаў, што людзі, якія чыталі твае п'есы, кажуць, што чалавек малады не мог так напісаць. У мяне адразу ўзнікае паралель з Трэплевым. Ці ёсць у цябе роля, у якой ты ў нейкіх момантах адчуваеш сябе самім сабой? Ці суадносіш сябе з нейкім персанажам?**

— Мне здаецца, Трэплеў толькі і займаўся, што шукаў новыя формы. Для мяне важна паспрабаваць і новыя формы, і класічную трагедыю, цяпер вось пішу камедыю. Паколькі я часам працую з «Радыё Расіі», «Радыё Культура», цікава паспрабаваць, што такое радыёп'еса. Апошняе, што я напісаў, — п'еса па фотаздымках. Калі ўзяць «Знешнія пабочныя», гэта ўвогуле дзіўны матэрыял, больш гукавы. Я не рабіў яго адмыслова для радыё, але там неабходны візуальны гукарад, шумавы, гульня з прасторай гледача. Гэта п'еса нават не для тэатральнай залы. Таму мне цікава паспрабаваць усё. Я не ведаю, як асацыяваць сябе з нейкай роляй, з нейкім персанажам, дзе мне лёгка...

**— Ты часта глядзіш пастаўленыя табой спектаклі. А што наконт спектакляў па тваіх п'есах? Пачуцці пры праглядзе адрозніваюцца?**

— Цалкам спектаклі пасля выпуску я гляджу рэдка, толькі калі нейкімі кавалкамі, правяраю некаторыя моманты, якія не атрымаліся ў мінулы раз. Заўсёды артыстам кажу: «Вы не нервуйцеся, за вас перажываю я, таму цалкам спакойна і вольна пачувайцеся на сцэне, рабіце сваю справу». У прынцыпе, гэта адбываецца і са спектаклямі па маіх п'есах. Асабліва хвалююся, калі рэжысёры бывае, не папярэджваюць пра нейкія скарачэнні або для іх рэжысёрскай задумы неабходна памяняць сцэны месцамі, ці яны не спраўляюцца з нейкай сцэнай і яе проста выкідваюць, ці няма артыстаў сталага ўзросту, і яны наогул прыбіраюць гэтую лінію. Дзіўна гучыць, вядома. Перажываю, але не нервуюся, таму што кропку на паперы я ўжо паставіў, мая праца скончана. Цяпер чарга рэжысёра, артыста, мастака, кампазітара, і ўжо яны адказваюць за тое, што адбываецца на сцэне. Таму, напэўна, і крытыку я даволі лёгка пераношу. Вось цяпер толькі пра гэта падумаў. Мне лёгка прыкрыцца рэжысёрам і артыстам і сказаць, што п'еса ў мяне зусім іншая, зусім не пра тое. Можа быць, я такім чынам імкнуся псіхалагічна адасобіцца, але гэта мая пазіцыя. Я, напэўна, проста з тых творцаў, якія не насаджаюць сваё бачанне. П'еса для мяне — не матэрыял для таго, каб сказаць, што я адчуваю. Усё ж такі тэкст першасны, і таму важная задума аўтарская, важна раскрыць яе ў першую чаргу, а потым ужо думаць пра сваё бачанне.

**— Ты сказаў, што перажываеш, нервуешся, гледзячы спектаклі па сваіх п'есах. А калі пастаноўка твая? Нервуешся?**

— Вядома. За кожны акцёрскі крок нервуюся. Таму што рэпеціравалі так, а сёння атрымалася крыху інакш. Але ў любым выпадку, тэатр — гэта жывы арганізм, таму можа адбыцца ўсё. Пакуль я не заўважаю, каб артысты моцна адхіліліся ад таго, што мы рэпеціравалі.

**— Ты неяк казаў, што ў цябе няма адмоўных герояў, а толькі станоўчыя, ды яны са сваімі асаблівасцямі. А ты так і пра жыццё думаеш? Няма людзей дрэнных?**

— ...Людзі са сваёй праўдай, калі дакладней. Ды не, ёсць дрэнныя людзі. Проста такая ў мяне мастацкая выдумка, мне не хочацца, каб былі ўсе дрэнныя. Я ж магу персанажа апраўдаць па яго ўнутранай лініі. Гэта дае паўтоны. Таму што калі мы фарбуем толькі белым і чорным, гэта сумна. Я вельмі люблю выпісваць нейкія моманты, калі на першай старонцы даецца нейкі факт, і мы думаем: а навошта ён наогул тут патрэбны? А на 10-й старонцы факт адкрываецца, і адразу ўсё становіцца на свае месцы. Складваецца мазаіка з падзей, і ў нейкі момант гэтыя падзеі зліваюцца разам, і тады адразу ўсё сыходзіцца. Я разумею логіку персанажа, я разумею яго імкненні. Наогул жа цікава збіраць пазл. Вось у мяне ў жыцці быў пазл на 2,5 тысячы дэталяў, я яго так і не сабраў...

**— Новая драма для цябе — гэта новая форма ці не толькі? Ці важна ў новай драме выконваць не толькі форму?**

— Вядома, усё важна. Толькі пры той умове, што мы ў кожным аспекце знойдзем цэласнасць, апраўданасць, толькі ў гэтым выпадку спектакль складзецца на 100%, і толькі так ён пачне працаваць. Калі ён дзесьці кульгае, значыць, мы нешта недадумалі, недапрацавалі, кінулі. Як адбываецца праца з першапачатковым матэрыялам, як расстаўляюцца акцэнты. Па прыкладзе «Саша, вынесі смецце»: я пакідаю ўсе рэмаркі, якія ў тэатры мала хто выкарыстоўвае. Для мяне яны там як паказчык таго моманту, што жыццё спынілася, запаволілася, гадзіннічкі нікуды не ідуць. Шмат хто кажа, што, калі ёсць новая драма, яна павінна быць напісана па-новаму, да яе павінна быць ужыта новая рэжысёрская мова, новыя акцёрскія тэхнікі. Але мне цікава, чаму? У любым выпадку, ёсць у мастацтве такое паняцце, як эгаізм. Я не хачу па-новаму, я хачу вось так, як напісаў аўтар, і так, як я разумею аўтара. Новая драма — наогул паняцце дзіўнае. Трэба разумець, што для кагосьці гэта нейкі працэс, але для мяне гэта проста новыя п'есы, якія напісаны. Бо цяперашні дзень нам дыктуе ўмовы. І Чэхаў — новая драма, і Гаўптман, і Вампілаў у свой час. Лёгка сказаць, што гэта п'еса, якая знайшла нейкую новую мову ці новую праблематыку альбо новага героя. Але, зноў жа, усё дыктуе закон часу, наша становішча, наша стаўленне да таго, што адбываецца навокал. Гэта такі цяжкі момант. Можна, вядома, вычварацца колькі заўгодна, перапісаць усю рэкламу ў метро і сказаць, што напісаў п'есу. Але гэта не стане новай драмай ніколі, гэта і драмай не стане. Часам чытаеш п'есы і разумееш, што кароль жа голы! Можна пад шыльдай «новая драма» прасоўваць усё, што заўгодна. Але ці працуе гэта? Створана яна па законах тэатра ці не створана? Зноў жа, тут не важна, па якіх законах, таму што цяпер вельмі шмат усяго ў тэатр прыйшло і прыходзіць. Чамусьці на энергетычным узроўні мне больш зразумела, што такое новая драма, чым на моўным.

**Размаўляла Вольга СТАРАВОЙТАВА**

# Развагі, што нараджаюць думкі

**У кінатэатрах з'яўляецца ўсё больш беларускіх незалежных стужак. У мінулым нумары мы пісалі пра ініцыятыву «Сваё кіно», а на гэтым тыдні аматараў айчыннага кіно чакае яшчэ адна прыемная навіна: у Дом кіно вяртаецца праект «Незалежны позірк», у межах якога з 16 па 19 сакавіка пакажуць самыя гучныя фільмы маладых беларускіх рэжысёраў.**

Працягласць праекта — усяго 3 дні. Учора гледачам прадставілі стужку «Душы мёртвыя» Віктара Красоўскага — фільм, зняты адным кадрам, які стаў лепшай гульнявой стужкай Нацыянальнага конкурсу на «Лістападзе». Драма расказвае гісторыю беларускага прадпрыемства, дзе працуюць інваліды. Дарослае кіно з вельмі важнай, актуальнай ідэяй стала лаўрэатам замежных кінафестываляў.

Стварылі «Незалежны позірк» людзі, закаханыя ў беларускае кіно. Адзін з іх — Мікалай Лаўранюк, каардынатар нацыянальнай праграмы кінафестывалю «Лістапад», які сапраўды ведае, што абавязкова павінен убачыць наш кінааматар: «Працуючы над праграмай Нацыянальнага конкурсу кінафестывалю "Лістапад", мы выявілі, што ў сучасным беларускім незалежным кіно сапраўды ёсць вельмі годныя працы. Многія з іх паспяхова ўдзельнічаюць і ў замежных фестывалях. Але да беларускіх гледачоў гэтыя фільмы практычна не даходзяць, фестывальных паказаў тут недастаткова. Таму і нарадзілася ідэя гэтага праекта. Паказаць, што кіно ў нас ёсць, і, больш за тое, не такое, якім многія яго ўяўляюць».

Гэтым разам стаўка «Незалежнага позірку» зроблена на лепшыя фільмы Нацыянальнага конкурсу «Лістапада»: у фокусе — фільмы-пераможцы і стужкі-ўдзельніцы сёлетняга конкурсу. Галоўны крытэрый для арганізатараў, безумоўна, — якасць. І ўзнагароды самага буйнога фестываля краіны — пацвярджэнне гэтаму. Наогул, сёлета праграма складаецца з сур'ёзнага, не забаўляльнага кіно. Летась фільмы былі больш разнапланавыя, меліся і жанравыя працы. Але цяпер пакажуць кіно, якое падштурхоўвае да разваг.

«Незалежны позірк» прадставіць «Саламанку» Руслана Фядотава і Аляксандры Кулак. Сёлета іх фільм не толькі стаў лепшай дакументальнай работай Нацыянальнага конкурсу «Лістапад» — стужку паказвалі на прэстыжных кінафестывалях у Амстэрдаме (менавіта там, на фестывалі *IDFA*, «Канах» дакументалістыкі, адбылася прэм'ера фільма) і Маскве. Нягледзячы на тое, што сюжэт фільма разгортваецца ў Мексіцы (героі стужкі — менаніты, якія перасяліліся ў Мексіку ў пошуках свайго месца на зямлі), ён будзе блізкім для беларускага гледача: убачыць, якім бывае жыццё за акіянам, пазнаёміцца з чужымі традыцыямі і зразумець кошт часу і ўласнага выбару, можна на прыкладзе персанажаў «Саламанкі».

Кіно на экалагічную тэматыку «Дваццацьшаснаццаць» Андрэя Крывецкага і Дзмітрыя Рачкоўскага таксама пакажуць у Доме кіно. Стужка сёлета ўдзельнічала ў кінафестывалі «Лістапад», у іншых міжнародных фестывалях, а створана была ў межах праекта «Кінаспрынт», прысвечанага фільмам на тэму экалогіі. Насамрэч



*Кадр з фільма «Саламанка» (рэж. Р. Фядотаў і А. Кулак).*

тэма стужкі нашмат шырэйшая: акрамя таго, што галоўны герой (артыст тэатра імя Горкага Сяргей Юрэвіч) застаўся адзін на Зямлі, без цывілізацыі, а толькі з успамінамі і ўласнаручна пабудаванымі дамамі, тэма адзіноцтва і апакаліпсіса неад'емная тут ад тэм надзеі і кахання, вечнага пошуку. Прытча заснавана на сцэнарыі вядомага беларускага драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага.

За другі год існавання ініцыятыва ўжо знайшла сваё кола прыхільнікаў. Акрамя таго, што першыя паказы летась былі паспяховымі, за чатыры сеансы альманах паглядзелі больш за 500 гледачоў, адзначае Мікалай Лаўранюк: «Мы лічым, што гэта добры паказчык. Большасць людзей, якіх я бачыў у зале, — проста гледачы, якія не маюць дачынення да беларускага кінаасяроддзя, не сябры і не знаёмыя аўтараў фільмаў. Гэта людзі розных узростаў. У той жа час казаць пра тое, якая аўдыторыя сфарміравалася, мне здаецца, яшчэ рана. Для гэтага патрэбен час, на працягу якога беларускае кіно павінна рэгулярна з'яўляцца на вялікіх экранах».

Стужкі маладых беларускіх рэжысёраў глядзяць на замежных фестывалях, уручаюць ім узнагароды, а родны глядач даведваецца пра іх толькі апасля. «Незалежны позірк» спрабуе перамяніць тэндэнцыю і дазволіць беларускім кінааматарам зрабіць свае кінематаграфічныя адкрыцці. Дарэчы, зрабіць гэта можна будзе і з 30 сакавіка па 2 красавіка: у гэты перыяд у межах праекта ў кінатэатры «Беларусь» пройдуць паказы фільма Мікіты Лаўрэцкага «Каханне і партнёрства». Спыніцца «Незалежны позірк» не плануе, Мікалай Лаўранюк лічыць, што праектаў, прысвечаных беларускаму кіно, павінна быць больш: «У любым выпадку, пакуль айчынныя стужкі ў кінатэатрах, на жаль, у меншасці. Мы спрабуем гэтую сітуацыю змяніць, ствараючы, так бы мовіць, сваё асяроддзе: адна і тая ж праграма ідзе на працягу чатырох дзён, таму гэта не проста разовы паказ, а ўжо абмежаваны кінапракат».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ЛЮБОЎ МАЛЕНЬКАГА ПРЫНЦА

**Жыццё заўжды ў нешта выліваецца: у гісторыю, у кнігу, у каханне, у фільм. Новая дакументальная стужка Кацярыны Махавай «Хай жыве Маленькі прынц» — таму доказ: гэта энцыклапедыя чалавечага жыцця і думак, адказы на пытанні пра каханне і адзіноту.**

Экзюперы ў сваім «Маленькім прынцы» таксама задаваўся многімі пытаннямі. Яго героі шукалі адказы на іншых планетах, у іншых істот, але ў выніку і самі становіліся адказамі. Бясконцая пагоня за ісцінай зрабіла «Маленькага прынца» творам, які зацікавіць дзяцей, але і дасць каштоўныя ўрокі дарослым. Тое ж самае зрабіла і Кацярына Махава ў сваім кіно, нездарма ж стужку, прэм'ера якой адбылася ў Беларусі на мінулым тыдні, ужо заўважылі за мяжой: у Маскве на фестывалі «Артдакфэст» фільм быў уключаны ў спецыяльную праграму, а ў Кіеве на кінафестывалі «Пакроў» кіно атрымала прыз «За актуальнасць тэмы».

Сюжэтныя лініі, якія перапляліся ў дакументальнай стужцы, — гэта свайго роду інь і ян. Мы бачым рэпетыцыю інклюзіўнага спектакля «Маленькі прынц», якую ладзіць са сваімі вучнямі вядомы кожнаму беларусу па «Калыханцы» Аляксандр Ждановіч (Маляваныч), а другая лінія — людзі, якія адказваюць на вечныя пытанні. Можа скласціся ўражанне асаблівай сацыяльнай сеткі: здавалася б, героі паміж сабой не знаёмыя, не звязаныя агульнымі інтарэсамі, але «канэкт», які заўважаецца на экране, не патрабуе ніякіх тлумачэнняў: кім бы не былі людзі, чым бы ні займаліся, іх яднаюць адказы, якія героі даюць на пытанні пра каханне, веру, сэнс жыцця.

Каханне — ледзьве не адзінае, што можа вярнуць чалавека да жыцця. Так лічаць і студэнты, і супрацоўнікі бізнес-цэнтраў, і дырыжоры. Нават супрацоўнікі завода. Але героі фільма адзначаюць, што кахання ў свеце становіцца ўсё менш. Па-першае, на яго месца прыходзіць ахвяраванне, па-другое, як за бясконцай працай не забыцца на пачуцці? Маладыя, хто яшчэ не паспеў «захварэць» працай, могуць рамантычна казаць пра каханне: гэта ж не нейкая там закаханасць-біяхімія. Пра гэтае паняцце мяркуць нават у турме: кажуць, што


*Кадр з фільма «Хай жыве маленькі прынц» (рэж. К. Махава).*

каханне — радасць душы. А часам нават і казаць не трэба: аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Співакова выконвае музыку да «Агнёў вялікага горада» Чапліна. Што ж лепш, як не гэты фільм, сведчыць пра тое, што калі ёсць пачуцці, то і слоў не трэба.

Дакументальнае кіно — гэта не прыгожая казка, а аб'ектыўная рэальнасць. Таму ў фільме шмат тых, хто ніколі не кахаў, ці не хоча, ці не ведае наогул, што гэта такое. Героі стужкі Кацярыны Махавай смела прызнаюцца ў тым, што не памятаюць, як клапаціліся пра кагосьці, не ведаюць, што такое каханне, што ў іх жыцці кахання ніколі не было. І гэта яшчэ больш набліжае кіно да навелы Экзюперы.

Памятаеце, як маленькі прынц шукаў адказы на свае часам дзіцячыя, але такія сур'ёзныя пытанні? З гэтай серыі і супрацьстаянне дабра са злом, і кахання з любоўю, і блізкасці з адзінотай. А памятаеце, як на такія пытанні рэагавалі дарослыя? Ім заўсёды гэта падавалася лухтой, нечым непатрэбным. Героі фільма «Хай жыве маленькі прынц» ставяцца да такіх пытанняў паважліва. Для многіх прызнацца ў чымсьці асабістым — значыць застацца без скуры, для некаторых паняцце кахання ўзведзенае ў абсалют, а хтосьці шукае мяжу паміж законамі прыроды і рэлігіяй. Кожны, хто браў удзел у фільме, з аднаго боку, быў маленькім прынцам, а з іншага — адказчыкам. Яны шукалі адказы на пытанні, якія баяліся задаць сабе, унутры сябе, яны дзяліліся з камерай тым, чаго не адкрывалі нават блізкім. Каштоўнасць стужкі найперш у гэтым.

Яшчэ адна важная рэч, на якую звяртаецца ўвага ў фільме: чалавек павінен на ўласнай скуры паспрабаваць усё магчымае. Быць і прынцам, і ружай, і ліхтарнікам зор. Аляксандр Ждановіч сваім вучням — акцёрам «Маленькага прынца» такую магчымасць дае. Гэтыя людзі, як і ўсе астатнія героі фільма, на працягу 60-хвілiннай стужкі развіваюцца і сталеюць, а не толькі дзеляцца ўражаннямі і меркаваннямі. Некаторыя з іх з'яўляюцца ў кадры толькі на хвіліну, але гэта будзе хвіліна, якая зменіць іх уяўленне пра свет і наваколле. Гэта яднае фільм Кацярыны Махавай з кінакарцінай «Кахаць» Міхаіла Каліка, знятай у 1968 годзе. Адзін з эпізодаў беларускі рэжысёр нават уключыла ў сваю стужку.

Персанажы Каліка, як і героі Махавай, часам не могуць адказаць на пытанні, якія ім задаюць. Але гэтыя людзі даюць адказы на галоўнае пытанне сучаснасці, якое датычнае не толькі Беларусі, але і свету: ці засталося ў нашым жыцці, занятым працай, месца для кахання? У любых абставінах, у любых краінах, у любых прафесіях мы гатовыя кахаць. Як і маленькі прынц, які аддаваў усяго сябе любімай кветцы. Бо залежнасць, насамрэч, толькі ад хуткасці — важна, канечне, паспяваць.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# СЭРЦЫ, ШТО ПОЎНЯЦЦА ПЕСНЯМІ

Для выкладчыкаў, навучэнцаў і гасцей, якія завіталі ў Мінскі дзяржаўны каледж імя М. І. Глінкі, вясна пачалася з канцэрта «Народная песня ў маім сэрцы». Адна з найстарэйшых устаноў адукацыі, заснаваная ў 1924 годзе, Мінскі дзяржаўны каледж імя М. І. Глінкі вось ужо амаль сорак чатыры гады рыхтуе артыстаў і кіраўнікоў фальклорных калектываў.

Плённай працай у гэтым кірунку, падмурак якому быў закладзены кампазітарам Алесем Рашчынскім, вылучаецца дзейнасць цыклавой камісіі «Народны хор», якім кіруе таленавіты выкладчык, хормайстар Кіра Мікалаеўна Славінская. Менавіта дзякуючы дзейнасці гэтай жанчыны ўпершыню ў гісторыі каледжа ў сакавіку 2016 года загучала з новай сілай народная песня ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца народны артыст Рэспублікі Беларусь Міхась Дрынеўскі.

Творчы прафесійны калектыў каледжа «Народны хор» вядзе актыўную канцэртную дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь і за мяжой, выкананнем беларускіх народных песень, песень у апрацоўцы беларускіх кампазітараў, аўтарскіх твораў садзейнічае адраджэнню найбагацейшых традыцый беларускага музычнага фальклору, далучэнню слухачоў да аўтэнтычных скарбаў роднай культуры. Святочны канцэрт «Народная песня ў маім сэрцы» ладзіўся ў каледжы ўпершыню і стаў падмуркам культураадпаведнага выхаваўчага асяроддзя, якое аб'яднала лаўрэатаў II Мінскага адкрытага конкурсу харавых і сольных спеваў «Вясновы спеў».

Конкурс «Вясновы спеў», існаванне якога пачынаецца з 2014 года, праводзіцца сярод дзяцей ва ўзросце ад сямі да сямнаццаці гадоў па намінацыях «Акадэмічныя сольныя спевы», «Акадэмічныя харавыя спевы», «Народныя харавыя спевы», «Народныя сольныя спевы». Летась у конкурсе ўзялі ўдзел 58 салістаў і 33 харавыя калектывы і харавыя ансамблі. Агульная колькасць выканаўцаў склала больш як паўтары тысячы чалавек! Па выніках конкурсу 21 саліст і 26 харавых калектываў сталі лаўрэатамі, сярод якіх першае месца ў намінацыі «Народныя сольныя спевы» атрымала Настасся Бекарэвіч, якая цяпер ужо навучэнка I курса каледжа імя Глінкі (выкладчык Г. Б. Мілавідава), у намінацыі «Народныя харавыя спевы» — ансамбль народнай музыкі «Медуніца» *сярэдняй школы № 11 г. Мінска (*кіраўнік І. А. Радзькова).

Настасся Бекарэвіч.

Асноўная ідэя правядзення канцэрта «Народная песня ў маім сэрцы» — стварэнне этнакультурнай прасторы, фарміраванне ў навучэнцаў каштоўнасных арыенціраў у напрамку ўсведамлення значнасці песеннай традыцыйнай культуры свайго народа, далучэнне навучэнцаў да роднай мовы, нацыянальных традыцый. На значнасць мерапрыемства звярнулі ўвагу ў сваёй прадмове да выканаўцаў і слухачоў старшыня цыклавой камісіі «Народны хор» Кіра Славінская і намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Аляксей Снітко, які адзначыў: «У Мінску і таксама за яго межамі харавая і вакальная спеўная культура, як акадэмічная, так і народная, жывуць і развіваюцца. Пакуль ёсць таленавітыя людзі, якія любяць музыку, дзяцей, педагогіку і з захапленнем укладваюць свае сілы ў выхаванне новых талентаў, народнае мастацтва будзе квітнець».

Вялікую каштоўнасць у гэтай сувязі маюць народныя калектывы, ансамблі народнай музыкі і фальклору дзяцей і моладзі, дзейнасць якіх прысвечана пераймання фальклорнага мастацтва.

З музычным прывітаннем адкрыў канцэрт народны хор і інструментальны ансамбль каледжа імя М. І. Глінкі з песняй «Ай, чалом, чалом» (кіраўнік І. У. Канцэвіч, канцэртмайстар Я. М. Мароз). У канцэрце ўзялі ўдзел салісты і ансамблі ўстаноў сярэдняй і дадатковай адукацыі г. Мінска, якія прадэманстравалі спецыфіку народнай манеры спеваў: акрамя вышэйзгаданай «Медуніцы», яшчэ ўзорны ансамбль народный музыкі «Бараўлянская крынічка» Бараўлянскай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік А. Г. Горская); ансамбль народнай песні «Жывіца» дзіцячай музычна-мастацкай школы мастацтваў № 1 г. Мінска (кіраўнік Л. Н. Якімавец); фальклорны ансамбль «Праменьчык» дзіцячай музычнай школы мастацтваў імя Я. А. Глебава г. Мінска (кіраўнік В. В. Лінко).

Жыццёвыя ўмовы змяняюцца і не спрыяюць захаванню фальклору. Але, нягледзячы на тое, што фальклярысты мінулага адзначалі знікненне фальклорных традыцый, народная спадчына жыве, хаця і не ў тых межах, як гэта было, напрыклад, сто гадоў таму. Важна зразумець, што, пакуль жыве народ, будзе працягваць існаванне і народная песня. Таму галоўная задача падобных сустрэч на базе вядучых устаноў адукацыі, адной з якіх з'яўляецца Мінскі дзяржаўны каледж імя М. І. Глінкі, — актыўна ўзнаўляць народныя музычныя традыцыі ў эстэтычным выхаванні падрастаючага пакалення на базе дзіцячых музычных школ мастацтва, сярэдніх школ і нават у дзіцячых садках.

Нездарма вядомы харавы дырыжор, грамадскі і музычны дзеяч Р. Р. Шырма адзначаў, што народ, які перастае спяваць, перастае і жыць.

**Наталля КАРДАШОВА**



Народны хор МДМК імя М. І. Глінкі.



# Ніякай руціны

Праект «Джазавыя вечары ў філармоніі» ў супрацоўніцтве з Польскім інстытутам у Мінску працягвае радаваць публіку. У Белдзяржфілармоніі 26 сакавіка выступіць вакалістка Ага Зарыян, творчасць якой заснавана на традыцыях спявачак Эбі Лінкальн, Ніны Сімон, Кармэн Макрэй і Джоні Мітчэл. Ага Зарыян звяртае сучасных слухачоў да лепшага ў гісторыі джаза. Яна першая польская выканаўца, якая трапіла на легендарны лэйбл *Blue Note Records*.

**— Ага Зарыян — гэта ваш псеўданім. Якое ў яго значэнне?**

— Мой псеўданім — гэта рэверанс у бок майго дзядулі Яна Зараньскага. Пачатак прозвішча і імя дзядулі складаюць мой сцэнічны псеўданім на працягу 12 год. Мой дзед быў важнай постаццю ў жыцці нашай сям'і. Ён ваяваў, быў юрыстам, журналістам, у сталінскія часы некалькі год правёў у турме. Ён быў патрыётам, для якога важны лёс краіны. Я па-ранейшаму многаму вучуся ад дзядулі, хаця яго няма з намі ўжо больш за трыццаць год.

**— Хто аўтар музыкі і слоў кампазіцый, якія вы выконваеце?**

— Частку тэкстаў і мелодый я прыдумваю сама. Калі не хапае натхнення, выбіраю паэзію, блізкую сэрцу. Шмат песень ствараецца ў супрацоўніцтве з Міхалам Токаем. Але ёсць творы, якія напісаны для мяне іншымі джазавымі музыкантамі: Дэвідам Дорушкам, Лары Кунсам, Дарэкам Аляшкевічам.

**— У вас ёсць кампазіцыі як на польскай, так і на англійскай мове. Чым абумоўлены выбар мовы для той ці іншай песні?**

— На польскай мове я запісала два альбомы. «Памірае прыгажосць» — даніна памяці варшаўскім паўстанцам, і «Кніга адкрыццяў» — на вершы Чэслава Мілаша і яго любімых паэтэс. Гэты альбом мае таксама і англамоўнае выданне. Такім чынам нашу польскую паэзію слухаюць і за межамі Польшчы. Астатнія альбомы, якія складаюць большую частку дыскаграфіі, — гэта аўтарскія песні і амерыканскія стандарты. Англійская — мова джаза, адсюль і выбар менавіта гэтай мовы.

**— У Мінску вы выступіце разам з калектывам *European Jazz Trio*. Як доўга супрацоўнічаеце?**

— Я выконваю творы з маіх васьмі альбомаў. Са мной выступяць выключны і надзвычай таленавітыя музыканты. З піяністам Міхалам Токаем і барабаншчыкам Лукашам Жытам мы супрацоўнічаем з майго дэбютнага альбома *My Lullaby* (2002). У нас падобнае артыстычнае ўспрыманне, і адсюль доўгае і плённае супрацоўніцтва. Міхал часта піша для мяне, ён аўтар музыкі ла альбома «Памірае прыгажосць». Басіст Міхал Бараньскі — самы малады з нас. У такім складзе мы сыгралі мноства канцэртаў практычна па ўсім свеце.

**— Вы супрацоўнічаеце з мноствам музыкантаў з усяго свету. Што для вас самае важнае пры сумеснай працы?**

— Пры выбары музыкантаў важны чалавек як артыст. Я павінна адчуваць падобнае ўспрыманне, то бок прымаць і перадаваць на адной хвалі. Без гэтага ніякай хіміі ў музыцы не бывае. Кожны з музыкантаў, якіх я запрашаю для запісу альбома, мае свой важны голас. Ага Зарыян — гэта не толькі мой спеў, гэта таксама аўра і ігра іншых музыкантаў.

**— Якая для вас самая лепшая камбінацыя інструментаў, каб выконваць джаз?**

— Іх бясконцая колькасць! Я вельмі люблю спяваць у дуэце з кантрабасам ці раялем, але класічнае трыа мае свае бездакорныя перавагі. Біг-бэнд, які добра грае, — гэта цудоўнае музычнае суправаджэнне, а ўпрыгожанне джаза струннай аранжыроўкай — асалода для майго сэрца.

**— Вашы альбомы неаднаразова атрымлівалі статусы «залатых» і «плацінавых». Што дазваляе вам заваёўваць такое прызнанне ў крытыкаў і публікі?**

— Мне здаецца, што ў часы вялікай колькасці музыкі і панавання прымітыўных тэкстаў людзі шукаюць альтэрнатыву і проста прыгажосць у музыцы. Для мяне слова, мелодыя — гэта аснова фарміравання рэпертуару. Музыканты, з якімі я маю гонар выступаць, заўсёды ўкладваюць у выкананне шмат добрай энергіі. Мяркую, што людзі гэта адчуваюць і таму хочуць нас слухаць. Для мяне музыка мае тэрапеўтычныя ўласцівасці: гэта ратаванне ад манатоннасці і шэрасці паўсядзённага жыцця. Магчыма, такім чынам успрымаюць джаз нашы слухачы. Гэты факт акрыляе і матывуе да далейшай працы. Што тычыцца крытыкаў, то мяне радуюць добрыя водгукі, таму што яны фарміруюць меркаванне пра артыста. Але я не ствараю музыку для рэцэнзіі. Важныя шчырасць і адсутнасць разліку ў творчасці.

**— Чаму менавіта джаз стаў асновай вашай творчасці?**

— Таму што джаз — гэта музыка незалежнасці. Ён універсальны, не мае межаў. Няважна, дзе я спяваю: у Японіі, Турцыі, Нарвегіі ці Ісландыі, заўсёды знаходжу там «сваіх». Джазавая музыка — дзіўная, кожны вечар гучыць па-рознаму, у ёй няма месца для руціны. Гэта імправізацыйная музыка, якая дае нам свабоду выяўлення. У мяне яшчэ многае наперадзе, таму што джаз патрабуе развіцця. А мне падабаюцца новыя выклікі!

**Юлія КАРДАШ**

# Сімвалы жыцця

## ў ідэях айчынных дызайнераў адзення

**Прымаўка «Сустракаюць па адзенні…» у наш час стала выдатным апраўданнем для тых, хто імкнецца ісці ў нагу з модай, але і абгрунтаваннем клопату пра ўласны імідж. Сёння мы маем багаты выбар, дзе і як апранацца. Але ці часта задумваемся пра тое, наколькі наш сучасны вобраз (праз тканіну, малюнкі, арнаменты) адлюстроўвае, дзе мы жывём, якую краіну прадстаўляем? Беларускія дызайнеры цяпер больш актыўна імкнуцца прываблíць сучаснага пакупніка сваёй прадукцыяй. У розных гандлёвых цэнтрах адкрываюцца так званыя молы, дзе прадстаўлена разнастайнае адзенне айчынных дызайнераў. А некаторыя вырабы наогул можна разглядаць як творы мастацтва. Напрыклад, беларускі дызайнер Надзея Хімдзіят стварыла асобную калекцыю для тых, хто выбірае моднае, практычнае і экалагічнае адзенне. Мастачка прадставіла яе на выстаўцы «Дарога да дрэва жыцця» ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**

Надзея Хімдзіят на працягу дзесяці год займаецца распрацоўкай уласных калекцый. Дызайнер не любіць паўтораў і вяртання да старых і забытых ідэй, таму працу над рэчамі пачынае з натхненнем і свежымі думкамі. Яна стварае адзенне пераважна для жанчын і лічыць сваю працу амаль ювелірнай. Бо кожная жанчына жадае быць непаўторнай, а для гэтага яе адзенне павінна стаць нібыта другой скурай.

— Кожная з маіх кліентак жадае падкрэсліць сваю непаўторнасць адзеннем, у якім ёсць душа, — адзначае Надзея Хімдзіят. — Больш за дзесяць гадоў я з'яўляюся вытворцам адзення з натуральных матэрыялаў. Асноўны акцэнт раблю на натуральны лён і яго асаблівасці. Яшчэ ніводнага разу ад сваіх пакупнікоў не чула слова, што гэта надта дорага. Затое мне казалі: «Гэта неацэнна». У апошні час мае эксклюзіўныя вырабы прадстаўлены ў розных цэнавых катэгорыях.

Выстаўка Надзеі Хімдзіят дэманструе разнастайнасць вопраткі, тканіны, аксесуараў. Элегантныя сукенкі ў падлогу, строгія офісныя касцюмы, прагулачныя сарафаны… Асноўным дэкаратыўным элементам у калекцыі стала вышыўка.





У геаметрычнай форме вышыўкі заключаны стылізаваны сімвал «Дрэва жыцця» — свайго роду абярэг, як лічылі нашы продкі. Жанчына, якая вышывала сакральныя сімвалы на вопратцы, імкнулася зберагчы сваю сям'ю, абараніць каханага, прыцягнуць урадлівасць і дабрабыт у хату.

Калекцыя Надзеі Хімдзіят зроблена з натуральных матэрыялаў: лён, баваўна, воўна, скура, футра. Каля 15 гадоў Надзея працуе з такім складаным матэрыялам, як лён, выкарыстоўвае роспіс па тканіне ў тэхніцы батык, вышыўку беларускага арнаменту, ажурнае вязанне. Ствараючы калекцыю, дызайнер паспрабавала адысці ад стэрэатыпнай моды і прадставіць нам праз рэчы не дзяўчыну-мадэль, а чалавека, які паважае сваю зямлю, культуру, бацькоў і родны дом. Мастачка ставіла мэту прадставіць жанчыну як сімвал любові і грацыёзнасці, у якой спалучаюцца прыгажосць, пяшчота, мудрасць, дабрыня і спагада.

Беларускія матывы, традыцыйны арнамент гарманічна ўпісваюцца ў кантэкст сучасных мадэляў. Стылістыка работ Надзеі Хімдзіят менавіта гэта і дэманструе. Насамрэч, беларускі арнамент — гэта і нацыянальны брэнд, праз які нас пазнаюць у свеце. Этнічны стыль у прачытанні Надзеі Хімдзіят набывае новае значэнне: ілюструе, што, калі такія рэчы запатрабаваныя, беларуская культура жыве і скіравана на развіццё.

Экспазіцыя «Дарога да дрэва жыцця» прысвечаная ўсім жанчынам. Галоўная нагода для арганізацыі выстаўкі — вясна, калі прага да жыцця ў прыродзе абуджае імкненне жыць і квітнець у людзях. Надзея Хімдзіят заклікае не губляць веру ў сябе. Паводле яе меркавання, кожная жанчына прыгожая, толькі прыгажосць трэба ўмець падкрэсліць — з дапамогай сродкаў, што дала нам прырода, а людзі ўдасканальваюць.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*



Баранавічы ў параўнанні з іншымі населенымі пунктамі нашай краіны — даволі малады горад. Аднак ужо мае сваю гісторыю, якая адлюстравана ў помніках: сёння іх больш як 120. Яны захавалі памяць пра людзей і падзеі, што пакінулі значны след у гісторыі горада.

На ўскрайку Баранавічаў, у маляўнічым урочышчы Гай, усіх, хто праязджае па чыгунцы Мінск — Брэст, сустракае мемарыяльны комплекс.

Падчас вайны нямецкія акупанты, вырашаючы «яўрэйскае пытанне», знішчалі ў Баранавічах не толькі мясцовых яўрэяў, але і грамадзян Чэхаславакіі, Германіі, Польшчы ды Аўстрыі.

Напрыканцы чэрвеня 1942 года на станцыю Баранавічы ў спецыяльных эшалонах прывезлі чэхаславацкіх падданых з сем'ямі з горада Тэрэзіна. Па прыбыцці цягніка на станцыю ім прапанавалі пакінуць усе рэчы, сесці ў машыны і паехаць на абед. Адвезлі ад горада на два кіламетры і расстралялі…

Баранавіцкія ўлады напрыканцы 1960-х гадоў прынялі рашэнне ўсталяваць на месцы расстрэлу яўрэяў з Заходняй Еўропы мемарыяльны знак. Але маштабы трагедыі прымусілі аўтарскі калектыў, які працаваў над праектам, адмовіцца ад першапачатковай задумы і стварыць цэлы ансамбль.

Будаўніцтва працягвалася два гады. Адкрылі мемарыял 24 чэрвеня 1972 года. На яго сцяне — мемарыяльная дошка з чорнага мармуру з надпісам на рускай і чэшскай мовах: «Светлай памяці чэхаславацкіх братоў» і міртавая галіна — знак вечнай памяці. Над стварэннем комплексу працавала творчая група ў складзе архітэктараў Мікалая Мілавідава, Аляксандра Макарава, Анатоля Марэніча і скульптара Майсея Альтшулера.

Цэнтральны помнік-манумент уяўляе сабой арку, створаную двума 12-метровымі жалезабетоннымі апорамі, абрысы якіх паўтараюць формы слупоў, што агароджвалі фашысцкія канцлагеры. Да апор на ланцугах (імітуюць калючы дрот) падвешаны два званы. Дзякуючы параўнальна невялікай вазе і значным памерам звона (яго вышыня — больш як паўтара метра), ён вагаецца нават пры лёгкім павеве ветру і пры гэтым грукае ў бронзавы звон, змешчаны ў яго сярэдзіне. І тады над наваколлем раздаецца спеў. Працяглы і журботны — пры лёгкіх парывах ветру, а пры моцных нагадвае люты звон. У гэтай трывожнай мелодыі гучаць і рэквіем, і гімн.

Сёння высветлены імёны адной тысячы людзей, загінулых на ўрочышчы Гай. Іх спісы захоўваюцца ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі.

**Тамара АГАРКОВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
16.03.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1624.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 977

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




